Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 34 (4834) 28 жніўня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Георгія Данэлію з нагоды юбілею. У Беларусі творчасць Георгія Данэліі карыстаецца ўсенародным прызнаннем, гаворыцца ў віншаванні. «Мы цэнім уклад, які Вы ўносіце ва ўмацаванне агульнай культурнай прасторы нашых краін», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні ў сувязі са смерцю народнага артыста СССР Льва Дурава яго родным, блізкім і калегам. «Льва Канстанцінавіча ведалі і цанілі як выдатнага прадстаўніка расійскай і савецкай культуры, які пакінуў свой след і ў беларускім кіно», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Больш як 70 удзельнікаў з дзевяці краін свету абмяркуюць у Мінску моўную і культурную спадчыну Беларусі падчас Міжнароднай летняй школы беларусістыкі, якая ўпершыню праходзіць з 25 жніўня па 7 верасня ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы. Сярод замежных гасцей — студэнты з Венгрыі, Чэхіі, Германіі, Польшчы, Славакіі, Расіі, Кітая і Японіі.

✔ На выстаўцы «Далікатныя захавальнікі Слова» прадстаўлена больш як 60 рэдкіх рукапісных і старадрукаваных кніг з калекцыі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля — сапраўдных шэдэўры кніжнага мастацтва. Сярод іх — «Евангелле», выдадзенае Пятром Мсціслаўцам у Вільні ў 1575 г., кнігі з ілюстрацыямі Васіля Вашчанкі з Магілёва, выданні маскоўскіх і беларускіх друкарняў XVII — XVIII стст., узоры рукапісаў стараверскай Веткі.

✔ Шэдэўры Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі «Ад рэалізму да імпрэсіянізму» з 5 верасня па 11 снежня змогуць пабачыць мінчане і госці сталіцы ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, які ўжо трэці раз прадстаўляе выстаўку палотнаў з Траццякоўкі. У новай экспазіцыі 79 работ — ад Саўрасава да Грабара, ад Рэпіна і Шышкіна да Каровіна.

✔ VII абласное свята-конкурс майстроў саломапляцення «Саламяныя дзівосы» адбудзецца заўтра ў г. Чэрвень. У свяце возьмуць удзел майстры з 12 раёнаў сталічнай вобласці. Асаблівая ўвага — юным удзельнікам свята.

✔ «Вязаны бульвар» з'явіцца ў Мінску да Дня горада. Мінчанам і гасцям сталіцы 13 верасня варта зазірнуць у сквер на бульвары Мулявіна. Майстры ўпрыгожаць вязанымі палотнамі больш як дзесяць аб'ектаў, галоўным арт-героем стане клён у цэнтры сквера.

✔ Мабільны гід па Барысаве прэзентавалі на адкрыцці выстаўкі арт-праекта «Napoleon горада Бэ» ў доме-сядзібе Івана Каладзеева. Мабільны дадатак прапаноўвае кожнаму, хто ўсталяваў яго на свой тэлефон, тры экскурсійныя маршруты па Барысаве. Падчас шпацыраў віртуальны гід распавядзе пра славутасці горада на Бярэзіне, пра яго выгляд больш як сто гадоў таму.

ISSN 0024-4686



















*Валянцін Бароўка «Змена», 1973 г.*

# Акно ў мінулую эпоху

**Юбілей — нагода прыгадаць вядомых і не надта вядомых мастакоў, іх творы, якія дзесяцігоддзямі не бачыў ніхто, акрамя музейных супрацоўнікаў. Так, у межах праекта «Нашы калекцыі» ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстаўка твораў айчынных мастакоў-юбіляраў 2015 года «Плынь часу».**

Падобныя групавыя экспазіцыі сталі для аднаго з вядучых музеяў краіны традыцыйнымі: ладзяцца з 2008 года. Гэта выстаўка ўжо дзявятая, тут экспануецца каля 100 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва аўтарства больш як 60 мастакоў.

Майстры, чые творы прадстаўлены ў экспазіцыі, мелі ці маюць розны ўзровень таленту, але кожны з іх распавёў пра час і пра сябе, выяўляючы ўласнае бачанне свету, прыхільнасці ў мастацтве і жыцці. Выстаўка ўключае невялікую колькасць твораў дасавецкага перыяду — пераважаюць работы 1920 — 2000-х гадоў. У асноўным жа адлюстраваны перыяд 1950 — 1980-х — «класічнага», ці хрэстаматыйнага, савецкага і познесавецкага мастацтва. Такім чынам, можна ўбачыць не толькі сувеќце індывідуальнасцей, але і эвалюцыі парадыгмы (сістэмы ідэйна-пластычных якасцей) ці парадыгмаў беларускага мастацтва XX стагоддзя.

Бадай ці не кожны з удзельнікаў выстаўкі так ці інакш вядомы аматарам айчыннага мастацтва ў Беларусі. Амаль усе — сябры Беларускага саюза мастакоў. Большая частка жыцця і творчасці некаторых з іх праходзіла ў іншых месцах (М. Айзенштата і В. Руцая, напрыклад, у Маскве). Самыя ж малавядомыя, напэўна, Яніслаў Валакіта і Уладзімір Гулецкі. Творы першага — шэраг апавядальных і ў той жа час трапяткіх ілюстрацый — захоўваюцца толькі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Мяркуецца, што гэтым псеўданімам карыстаўся мінскі канторшчык, літаратар і мастак Альберт Паўловіч. Уладзімір Гулецкі нарадзіўся ў Вілейцы, але жыццё прайшло пераважна ў Сібіры. Некалькі яго жывапісных і графічных твораў трапілі ў музей з першай пасляваеннай выстаўкі беларускага мастацтва, што адбылася ў 1944 годзе ў Маскве і ў 1945-м — у Мінску. У гады вайны мастак служыў у Цэнтральным штабе партызанскага руху.

Экспаненты ў калекцыі музея прадстаўлены па-рознаму (ад 1 твора да 80), таму так па-рознаму яны пададзены на выстаўцы колькасна. Значныя работы некаторых аўтараў — С. Каўроўскага, М. Айзенштата, М. Сеўрука, А. Бембеля, А. Гугеля, М. Залознага — знаходзяцца таксама ў раздзеле беларускага мастацтва пастаяннай экспазіцыі ў новым корпусе музея.

Гістарычныя эпохі падобныя да зніклых «атлантыд». І ў той жа час мінуўшчына не растае бясследна, яе духоўная і матэрыяльная прысутнасць адчуваецца і ўсведамляецца ў сучаснасці. Творы ж мастацтва быццам вокны, праз якія мы бачым іншыя часы-светы: іх справы, пачуцці і спадзяванні...

**Таццяна ШЫМУК**

# Літаратурнае і зямное


Фота Кастуся Дробава.

Напярэдадні Дня беларускага пісьменства ў Нацыянальным Прэс-цэнтры адбылася сустрэча журналістаў з прадстаўнікамі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кіраўнікі саюза распавялі пра набыткі творчага аб'яднання, а таксама анансавалі цікавыя мерапрыемствы, падрыхтаваныя да Дня беларускага пісьменства.

Як зазначыў Мікалай Чаргінец, сёлета ў святочнай праграме плануецца некалькі навінак. Па-першае, беларускія аўтары сустрэнуцца з жыхарамі Шчучына, каб пазнаёміць іх са сваёй творчасцю і расказаць пра сучасную беларускую літаратуру. Па-другое, падчас Дня пісьменства адбудзецца спаборніцтва дзіцячых футбольных каманд на прызы СПБ, што павінна прывабіць аматараў спорту. Да таго ж у 2015 годзе ўпершыню будзе ўручацца Нацыянальная літаратурная прэмія. У адрозненне ад «Залатога Купідона» лаўрэаты будуць вызначаны не ў адзінаццаці, а ў сямі намінацыях. Дарэчы, на ўручэнні прэміі пераможцы атрымаюць больш часу, каб расказаць публіцы пра свае кнігі.

Старшыня СПБ падкрэсліў, што Дзень беларускага пісьменства — гэта прыклад таго, як можна аб'яднаць зварот да духоўнасці з рэаліямі сённяшняга дня. Гаспадары свята не толькі рыхтуюцца да сустрэчы з творцамі, але і атрымліваюць дзяржаўную датацыю на адбудову горада.

Адказваючы на пытанні журналістаў, М. Чаргінец дэталёва ўзгадаў паездку пісьменніцкай дэлегацыі на Х Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон. «Падчас вандровак мы не толькі абмяркоўваем літаратурныя праблемы, але і звяртаем увагу на многія істотныя акалічнасці. Напрыклад, падатак на дабаўленую вартасць для кніжнай прадукцыі ў Расіі значна меншы, чым у Беларусі, таму расійскія выдаўцы знаходзяцца ў больш выгаднай сітуацыі».

Дырэктар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч прадставіў праект «Жывая класіка», прымеркаваны да літаратурнага свята. У Шчучыне збяруцца найлепшыя чытальнікі з агульнаадукацыйных школ Гродзеншчыны, далучацца да справы і беларускія пісьменнікі.

Сярод традыцыйных мерапрыемстваў — міжнародны «круглы стол» «Літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства», дзе па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкага дома «Звязда» і выдавецтва «Мастацкая літаратура» збяруцца літаратары і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі з Беларусі, Расійскай Федэрацыі, Літвы, Казахстана, Таджыкістана, Туркменістана і іншых краін. Будзе абмеркавана работа па перакладзе твораў замежных пісьменнікаў на беларускую мову і беларускіх пісьменнікаў на мовы іншых народаў свету. «Па вяртанні на радзіму ўдзельнікі «круглага стала» звычайна распавядаюць пра свае ўражанні ад Беларусі на старонках перыёдыкі, у мастацкіх творах розных жанраў», — падкрэсліў Алесь Карлюкевіч.

Доктар філалагічных навук Іван Саверчанка і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў расказалі пра сучасную сітуацыю ў беларускай літаратуры. М. Пазнякоў пералічыў маладых таленавітых аўтараў, адшуканых дзякуючы літаратурным конкурсам, і прадэманстраваў дэбютныя зборнікі маладых паэтаў. І. Саверчанка згадаў новыя кнігі сталых пісьменнікаў, а таксама падкрэсліў, што развіццю прыгожага пісьменства імкнуцца спрыяць і супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У тым ліку з гэтай мэтай рыхтуюцца акадэмічныя выданні збораў твораў беларускіх класікаў. «Здабыткі вядомых пісьменнікаў — гэта падмурак будучых здзяйсненняў», — падкрэсліў Іван Саверчанка.

**Янка НАТАВЕЦ**

*Прэмія*

# Захоўваем інтрыгу...

Падчас Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне адбудзецца цырымонія ўручэння Нацыянальнай літаратурнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Як адбываецца падрыхтоўка да ўрачыстага свята і якім чынам праходзіў адбор намінантаў прэміі, чытачам «ЛіМа» распавёў беларускі мовазнаўца, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, першы намеснік дырэктара на навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец.

— Сёлета ў Шчучыне 6 верасня будзе чарговы раз праводзіцца Дзень беларускага пісьменства. Гэта свята стала адным з галоўных у нашай краіне. Яно з'яўляецца сімвалам незалежнасці Рэспублікі Беларусь, адлюстроўвае гісторыю краіны і дазваляе сучаснікам дакрануцца да помнікаў старажытнага пісьменства, ацаніць значнасць пісьмовага слова і духоўнай культуры ў жыцці сучаснага чалавека.

Дзень беларускага пісьменства прадугледжвае шэраг разнастайных мерапрыемстваў. Адной са знакавых падзей свята будзе цырымонія ўручэння літаратурнай прэміі, статус якой сёлета істотна павысіўся — яна атрымала назву Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Гэта не толькі павышае яе значэнне і вагу, але таксама сведчыць пра тое, якая вялікая ўвага сёння надаецца літаратурна-мастацкай творчасці ў жыцці беларускага грамадства.

Нацыянальная літаратурная прэмія будзе ўручана па некалькіх намінацыях. Не раскрываючы пакуль што інтрыгу вызначэння пераможцаў, магу сказаць, што па розных намінацыях на конкурс было прадстаўлена каля пяцідзесяці работ. Усе работы высокага ўзроўню як па сваім змесце, так і па мастацкай вартасці. Таму была праведзеная вялікая і адказная, я б сказаў, вельмі няпростая, праца па вызначэнні прамоцаў конкурсу, што адбывалася ў два этапы. Спачатку працавала аўтарытэтная экспертная камісія, якая на падставе экспертных заключэнняў спецыялістаў вызначыла свае прыярытэты. Пасля на аснове рэкамендацый экспертнай камісіі журы ў выніку галасавання канчаткова вызначыла пераможцаў па розных намінацыях.

Хачу спецыяльна падкрэсліць, што ўсе прадстаўленыя намінантамі для ўдзелу ў конкурсе работы — вельмі сур'ёзныя, важныя па сваім змесце, актуальныя для жыцця сучаснай Беларусі, маюць высокую мастацкую вартасць і вялікае выхаваўчае значэнне. Адбор па вылучэнні пераможцаў на розных этапах праводзіўся вельмі адказна. У складзе экспертнай камісіі і журы былі вучоныя, пісьменнікі, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў. Я магу аўтарытэтна і катэгарычна сцвярджаць, што журы было высокакваліфікаванае, яно правяло сур'ёзную працу і аб'ектыўна ацаніла ўсе творы, пададзеныя на конкурс. З дастойных работ, якія заслугоўваюць гэтай прэміі, былі выбраныя самыя лепшыя. Імёны пераможцаў я пакуль называць не буду, таму што лічу правільным, каб пэўная інтрыга захавалася да самага канца.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Вылучаем лепшых!

**Пра сутнасць, адбор твораў на Нацыянальную літаратурную прэмію і яе перспектывы разважае сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук.**

— Нацыянальная літаратурная прэмія прызначана для таго, каб адсочваць айчынны літаратурны працэс, адзначаць лепшае з напісанага на працягу года, далучаць да абмеркавання і вызначэння намінантаў шырокае кола грамадскасці, прадстаўнікоў бібліятэк, выдавецтваў, рэдакцый перыядычных выданняў, а таксама сферы кнігагандлю. Усё гэта паспрыяе аб'ектыўнасці ацэнкі, а сама падзея атрымае шырокі розгалас у грамадстве і паслужыць папулярызацыі новых твораў.

**— А што наконт крытэрыяў адбору?**

— Пры адборы намінантаў звяртаем увагу на прапановы абласных пісьменніцкіх арганізацый, устаноў культуры. Прадстаўленыя на конкурс творы разглядае экспертная камісія, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі трох міністэрстваў: інфармацыі, культуры і адукацыі. Асноўныя крытэрыі адбору — мастацкая якасць твора, арыгінальнасць сюжэта, шырыня дыя-пазону мастацкіх сродкаў, публіцыстычная завостранасць, унікальнасць асвятлення малавядомых гістарычных фактаў, попыт у чытачоў і ў гандлі.

**— Якія, на вашу думку, перспектывы ў Нацыянальнай літаратурнай прэміі?**

— Трэба, каб рэгіянальныя пісьменніцкія арганізацыі і бібліятэкі пачыналі рыхтавацца да гэтай урачыстай падзеі загадзя. Так, неабходна праводзіць як мага больш чытацкіх канферэнцый, прэзентацый новых кніг айчынных творцаў. Мяркуецца, што Нацыянальная літаратурная прэмія будзе набіраць вагу ў грамадстве, а кожны пісьменнік будзе лічыць за гонар атрымаць яе, бо гэтая ўзнагарода дасць лаўрэатам яшчэ і магчымасць прапаноўваць свае творы для перакладу, наладжваць міжнародныя стасункі.

**Яна ЯВІЧ**

*Дайджэст*

• Брэст збірае мастакоў: у выставачнай зале брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра па вуліцы Савецкай адкрылася выстаўка «Жнівеньскія сустрэчы». На экспазіцыю адабрана больш як дзве сотні работ, але выстаўлена ўсяго сто трыццаць. Паводле куратара выстаўкі Пятра Кузьміча, адмысловай канцэпцыі ў яе не існуе, але работы спалучаюцца гарманічна. З Мінска прывёз свае творы Васіль Цімашоў. Арыгінальнасцю вылучаецца інсталяцыя з гаршкоў Паліны Піраговай. У цэлым жа выстаўка ўключае працы ў тэхніцы жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Наведаць выстаўку можна да 1 верасня.

• Сёлета прэмію «Х'юга», заснаваную Сусветным канвентам навуковай фантастыкі, упершыню атрымаў грамадзянін Кітая — фантаст Лю Цысінь. Яго твор «Задача трох цел» быў апублікаваны ў 2006 годзе, стаў бестселерам і ў 2010-м ператварыўся ў трылогію. Поспех рамана паспрыяў яго перакладу на англійскую мову, пасля чаго твор атрымаў прызнанне на Захадзе.

• Сядзіба Льва Талстога ў Яснай Паляне адкрывае літаратурную экспазіцыю пад назвай «Мастацтва пісаць». Тут будзе прадстаўлена вялікая калекцыя кніг з асабістай бібліятэкі пісьменніка. Таксама наведвальнікі даведаюцца шмат новага пра біяграфію Льва Талстога, этапы яго творчасці і падрабязна азнаёмяцца з самой Яснай Палянай. Адкрыццё выстаўкі адбудзецца 1 верасня а 14.00.

• «Боскую камедыю» Дантэ Аліг'еры плануюць экранізаваць. Працу над стужкай, якая абяцае стаць эпічнай, распачала амерыканская кінастудыя «*Warner Bros.*». Так, пачаліся пошукі рэжысёра, пасля адбудзецца падбор акцёрскага складу. Будучы фільм пакуль што мае назву «Пекла» («*Inferno*»). Яшчэ невядома, наколькі экранізацыя будзе прытрымлівацца сюжэта геніяльнай паэмы. Між тым сцэнарысты ўжо запэўнілі, што пры поспеху карціны можна будзе чакаць працяг — «Чысцец» і «Рай».

• Падведзеныя вынікі конкурсу на суісканне літаратурнай прэміі «Новыя гарызонты» ў межах фестывалю «Пецярбургская фантастычная асамблея». Лаўрэатам прэміі трэцяга сезона стаў Алег Радзінскі — сын знакамітага гісторыка. Аўтар прадставіў журы навукова-фантастычны раман «Агафонкін і Час», які распавядае пра ролю чалавека ў гісторыі. Цікава, што сёлета ўпершыню ўлічвалася меркаванне чытачоў, і ў выніку першае месца таксама заняў раман Алега Радзінскага.

• Фонд «Меркаванне грамадскасці» правёў апытанне датычна стаўлення расіян да года літаратуры. У апытанні бралі ўдзел тысяча чалавек з больш як трохсот гарадоў і пяцідзесяці сёлаў Расіі. У выніку стала вядома, што 43% нават не ведалі, што сёлетні год у краіне прысвечаны літаратуры. 38% упэўненыя, што акцыя сапраўды зменіць жыццё расіян. 54% ведалі, што праходзіць год літаратуры. Крыху больш як 40% мяркуюць, што расіяне — нацыя, якая чытае больш за ўсіх у свеце. Між тым гэтыя ж 40% не змаглі назваць кніжныя навінкі года.

• Выданне *The Verge* пацешыла прыхільнікаў творчасці Толкіна: апавяданне класіка фэнтэзі, якое яшчэ не друкавалася, апублікавана ў Вялікабрытаніі. Назва твора — «Гісторыя Кулерва». Менавіта з яго, як цяпер высветлілася, пачалося стварэнне Міжзем'я. Было гэта ў 1914 годзе, калі пісьменнік яшчэ вучыўся ў каледжы Оксфардскага ўніверсітэта. Кніга трапіла ў брытанскія кнігарні ўжо 27 жніўня, а вось у ЗША з'явіцца толькі 27 кастрычніка.

*Праекты*

# Школа роднай мовы

Міжнародная летняя школа беларусістыкі распачала працу 25 жніўня ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы. Падобнае мерапрыемства арганізаванае ўпершыню, — удзельнікаў больш як 70, сярод іх не толькі беларускія студэнты, але і моладзь з Венгрыі, Германіі, Кітая, Польшчы, Расіі, Славакіі, Чэхіі і Японіі.

Галоўная асаблівасць гэтага адукацыйнага праекта ў тым, што ўдзельнікі сумесна аналізуюць моўную, гістарычную і культурную спадчыну Беларусі ў форме разнастайных камунікацыйных мерапрыемстваў. У межах школы адбудуцца дыскусіі, адкрытыя лекцыі, напрыклад, па праблемах нормы і варыятыўнасці ў беларускай літаратурнай мове.

На ўрачыстым адкрыцці мерапрыемства прысутнічалі рэктар РІВШ Віктар Гайсёнак, прарэктар па вучэбнай рабоце Белдзяржуніверсітэта Аляксей Данільчанка, дэкан філалагічнага факультэта БДУ Іван Роўда і старшыня Беларускага камітэта славістаў Аляксандр Лукашанец. У сваіх прывітальных зваротах яны павіншавалі ўдзельнікаў школы, пажадалі ім плённай працы і цікавага адпачынку, а таксама адзначылі важнасць гэтай падзеі, бо папулярызацыя беларускай мовы — адна з галоўных задач як Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, так і ўсіх адукацыйных устаноў краіны.

Дэкан філфака Іван Роўда адзначыў: «У свеце існуе 6909 моў. На адных размаўляюць мільёны, на іншых — некалькі соцень, але ў кожнага чалавека ёсць свая родная мова, якая жыве ў яго сэрцы. Таму галоўная мэта школы беларусістыкі — дагрукацца да сэрцаў удзельнікаў і раскрыць ім таямніцы беларускай мовы, бо ў ёй адлюстроўваецца гісторыя, культура і традыцыі народа».

Праграма Міжнароднай летняй школы беларусістыкі — гэта 54 гадзіны заняткаў па практыцы беларускай мовы: фанетыка, граматыка, развіццё вуснай і пісьмовай мовы, а таксама спецыяльныя лекцыйныя курсы па розных аспектах беларускай гісторыі і культуры. Акрамя гэтага студэнты будуць задзейнічаныя ў інтэрактыўных занятках, майстар-класах і адукацыйных экскурсіях. Замежныя госці наведаюць касцёл Святых Сымона і Алены і кафедральны сабор Святога Духа ў Мінску, Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж», музей-запаведнік «Заслаўе», філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы «Вязынка».

Арганізатарамі ўнікальнага мерапрыемства выступілі кафедра маладзёжнай палітыкі і міжкультурнай камунікацыі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Міжнародная летняя школа беларусістыкі будзе працаваць да 7 верасня ўключна. Такім чынам, удзельнікаў чакаюць два насычаныя і яскравыя тыдні.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Пясок. Казачны

Гэтым летам у Мінску па адрасе Каліноўскага, 121 з'явілася незвычайная выстаўка пад адкрытым небам. Тут можна ўбачыць скульптурныя кампазіцыі з пяску — работы ўдзельнікаў І Міжнароднага фестывалю пясчаных скульптур «Сусветная калекцыя», які праходзіў у маі, — Мікалая Какорына, Андрэя Какорына, Мацвея Ваваева, Аляксандра Скарэднава, Юрыя Заікіна, Аляксея Самолава, Арцёма Камышова і Алега Вараб'ёва.

Галоўны акцэнт — кампазіцыя М. Ваваева і А. Вараб'ёва, прысвечаная 70-годдзю Вялікай Перамогі. Арыгінальны твор памяці першага касманаўта Юрыя Гагарына; казачна ўвасобленыя Афрыка і Далёкі Усход.

Дзеці ў захапленні ад казачных герояў. Асабліва шматлюдна каля «Машы і мядзведзя» А. Самолава, «Царэўны-жабкі» М. Какорына.

«Глядзі, нібы з каменю», — дзівіцца хлопчык, паказваючы маме на пясчаную скульптуру. Сапраўды, разглядаючы тую ж фігуру Гулівера, ніколі не скажаш, што яна зроблена з такога крохкага матэрыялу. Наведвальнікі ўважліва ўглядаюцца ў знаёмыя і адначасова нязвыклыя вобразы, шмат фатаграфуюць.

Адмыслова для маленькіх гасцей арганізатары размясцілі пясочніцу і лавачкі, і кожны мог адчуць сябе скульптарам.

Пленэры, конкурсы пясчанай скульптуры праходзяць у Беларусі штогод. Адзін з першых — «Легенда з пяску» — быў арганізаваны на пачатку 2000-х у Заслаўі, дзе юныя скульптары ўзвялі дзесяціметровую выяву Рагнеды. Пасля гэтага нашыя мастакі не раз бралі ўдзел у Міжнародных пленэрах і конкурсах, дзе займалі прызавыя месцы. Але ўнікальнасць сёлетняга



Міжнароднага фестывалю ў тым, што выстаўка работ засталася на цэлае лета і ператварылася ў месца адпачынку для дзяцей і бацькоў. Тое, што скульптуры захаваліся, сведчыць не толькі пра сухое, спякотнае надвор'е, але і пра высокую культуру мінчан.

**Настасся КАПЦАВА,**
**фота аўтара**

# Багдановіч-аніматар

Што такое сучасны музей? Вы скажаце, інстытут, прызначаны для захавання і збору культурна-гістарычных каштоўнасцей, распаўсюджвання інфармацыі праз зварот да экспанатаў. Але разам з тым гэта важная прастора для фарміравання сістэмы каштоўнасцей маладога пакалення, развіцця іх творчага патэнцыялу, далучэння да культурнай спадчыны краіны.

Экскурсія лічыцца асноўнай традыцыйнай формай працы музея, але не менш значным з'яўляецца правядзенне музейна-педагагічных заняткаў, культурна-забаўляльных праграм, якія дапамагаюць вырашаць выхаваўчыя і адукацыйныя задачы. У параўнанні з экскурсіяй такія заняткі актывізуюць наведвальнікаў, вызначаюць большай працягласцю і глыбінёй прапрацоўкі матэрыялаў.

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча распрацавана некалькі музейна-педагагічных заняткаў, якія праводзяцца ў школах і на тэрыторыі музея. Адны з іх тэматычна звязаныя з выстаўкай «Максімаў сад», створанай паводле вершаванай казкі Максіма Багдановіча «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». Адкрыццё выстаўкі адбылося напярэдадні Міжнароднага дня музеяў 16 мая 2015 года.

Фальклорная спадчына Беларусі моцна паўплывала на творчасць М. Багдановіча. Яго паэма «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык» адлюстроўвае звычаі, абрады, побыт беларускага народа, знаёміць з культурнымі, маральна-этычнымі каштоўнасцямі. Упершыню яна была надрукаваная ў «Нашай Ніве» 7 мая 1915 года. За стагоддзе казка неаднойчы перадрукоўвалася і выходзіла асобнымі кнігамі, што сведчыць пра папулярнасць твора. Ілюстрацыі да кніг стварылі вядомыя беларускія мастакі — Анатоль Волкаў, Мікалай Гурло, Яўген Кулік, Валянціна Сідарава, Генадзь Сянькоўскі.

Аснова музейна-педагагічных заняткаў паводле казкі — гульня, якая дапамагае актыўна спазнаваць навакольны свет, выказваць пачуцці, развіваць фантазію і творчыя здольнасці. Яшчэ адна адметнасць заняткаў — выкарыстанне элементаў арт-тэрапіі. Разважанне дзіцячых твораў у музейных залах натхняе іх аўтараў і юных наведвальнікаў, дапамагае ўспрымаць прафесійнае мастацтва. Пра гэта сведчыць практыка найбуйнейшых музеяў свету. Сёння арт-тэрапія — адзін з вядучых напрамкаў музейна-педагагічнай дзейнасці.

З 1 верасня бацькі і настаўнікі могуць запісваць маленькіх наведвальнікаў на заняткі «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». Чакаем!

**Ірына МУХАРОЎСКАЯ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік**
**Літаратурнага музея Максіма Багдановіча**

# Разам — пра сталіцу

Упершыню ў нашым горадзе адбыўся інтэрактыўны праект «ПішамМінск» па стварэнні калектыўнага апавядання «Дух Мінска». На працягу чатырох тыдняў кожны аўторак у *LoftCafe* праходзілі сустрэчы сааўтараў праекта, якія кожны раз працавалі над рознымі часткамі тэксту.

У кожнага горада ёсць свой твар. Ён можа быць радасны, сонечны, хмурны альбо сур'ёзны. Пытаннем, які твар у Мінска, задаліся арганізатары праекта Вікторыя Хоміч і Вольга Воўк. Дзякуючы запрасілі ўсіх ахвотных прыняць удзел у пошуках «духаў» і атрымаць асалоду ад сумеснай творчасці.

Вядучым аўтарам праекта «ПішамМінск» з'яўляецца беларускі пісьменнік і сцэнарыст Андрэй Жвалеўскі. Паводле задумы арганізатараў, ён напісаў першую частку апавядання «Дух Мінска», якая абрывалася на самым цікавым месцы. Астатнія тры часткі мусілі прыдумаць у калектыўнай працы дванаццаць сааўтараў. Кожны аўторак яны прапаноўвалі свае варыянты сюжэтаў, абмяркоўвалі, як найбольш дэталёва адлюстраваць горад і галоўных герояў, распавядалі адно аднаму пра цікавыя, незвычайныя мясціны Мінска. Падчас абмеркавання аўтар Андрэй Жвалеўскі занатоўваў у блакнот прыдуманыя творцамі канцэпцыі, а пасля на іх аснове ствараў новую частку тэксту. У выніку атрымалася гісторыя пра беларускамоўную студэнтку БДУ Насту і хлопца-правінцыяла Косціка. Удвах яны гуляюць па горадзе і трапляюць у цікавыя, містычныя сітуацыі. Кожны тыдзень ужо напісаныя часткі апавядання пісьменнік выкладваў у сецева, усе, хто жадаў, маглі прачытаць новыя тэксты і далучыцца да працэсу напісання.

— Мы з Вольгай даўно марылі паэксперыментаваць — сабраць творчую каманду і ўбачыць, як пішуцца калектыўныя тэксты, — расказвае арганізатар праекта «ПішамМінск» Вікторыя Хоміч, — зараз у нас з'явілася ўнікальная магчымасць назіраць за нараджэннем новых гісторый пра, здавалася, такі знаёмы Мінск. Кожны сааўтар па-свойму адчувае дух горада і мае свае прапановы па тэксце, але ў калектыўнай працы яны спрабуюць аб'ядноўваць свае думкі, такім чынам атрымліваюцца нечаканыя варыянты працягу папярэдняй часткі гісторыі.

У склад сааўтараў апавядання ўвайшлі людзі, якія не толькі шукаюць дух Мінска, але і спрабуюць ацаніць сваё месца ў гэтым асяроддзі. Сярод іх ёсць як студэнты, так і больш дарослыя людзі: псіхолаг, бібліятэкар, пісьменнік, дэфектолаг, журналіст і нават эканаміст.

Праект «ПішамМінск» уяўляе сабой мастацкі дыялог паміж сааўтарамі, вядучым і арганізатарамі праекта, дзе кожны звяртае ўвагу на прапановы іншага чалавека. На думку ўдзельнікаў праекта, калектыўная пісьменніцкая справа апынулася не такой лёгкай, як здавалася першапачаткова. Гэтыя чатыры тыдні яны вучыліся слухаць адно аднаго.

25 жніўня адбылася апошняя сустрэча сааўтараў. Творцы працавалі над чацвёртай часткай гісторыі. У хуткім часе яна будзе падрыхтаваная цалкам, і ўжо 1 верасня арганізатары праекта запрашаюць усіх ахвотных і зацікаўленых адправіцца на экскурсію па апісаных мясцінах Мінска.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Фестываль у Сапегаў

Заўтра каля сцен некалі велічнага Гальшанскага замка адбудзецца фестываль сярэднявечнай культуры. Рыцарскія баі, тэатралізаваныя прадстаўленні, аўтэнтычная музыка, майстар-класы па ганчарнай справе, кавальскім рамястве, фехтаванні, конна-спартыўнае і фаер-шоу — усё гэта чакае аматараў Сярэднявечча побач з руінамі замка Сапегаў.

Нягледзячы на тое, што фэст праводзіцца ўжо шосты раз, сёлета ён абяцае быць яшчэ больш маштабным і відовішчным. Справа ў тым, што 2015 год — юбілейны для гэтага мястэчка: Гальшаны адзначаюць 735-годдзе, сцены рэзідэнцыі Сапегаў — 405 гадоў з дня ўзвядзення, 610 гадоў спаўняецца з дня нараджэння легендарнай родапачынальніцы каралеўскай дынастыі Ягелонаў Соф'і Гальшанскай.

Фестываль пачнецца ў цэнтры аграгарадка з урачыстага мерапрыемства, прысвечанага 735-годдзю заснавання Гальшан. Затым адбудзецца тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў да руін замка. Фрагменты з вядомых спектакляў прадставіць на адкрытай пляцоўцы Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Выдатным падарункам усім гасцям стане адмысловы спектакль вулічнага тэатра «Вір». На сцэне ажывуць героі карціны знакамітага нідэрландскага мастака Іераніма Босха. Прысутныя змогуць не толькі ўбачыць цікавую пастаноўку, але і паўдзельнічаць у майстар-класе па хаджэнні на хадулях.

**Міра ІЎКОВІЧ**

РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» смуткуе з прычыны смерці былой супрацоўніцы часопіса «Полымя» Алы КАНАПЕЛЬКА і выказвае шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

## Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



### След шырокай плыні

«Мне сніўся “ЛіМ”… У змрочным калідоры // Свістаў наменнік, стукалі абцасы, // Звінелі галасы і тэлефоны // І, як заўсёды, абураўся Крук…» Маё пасланне з Дома творчасці прыйшло ў рэдакцыю па пошце і было змешчана на апошняй паласе, дзе звычайна ставілі гумар.

«ЛіМ» не сніцца не мог — настолькі ён быў прыцягальным як эпіцэнтр літаратурнага працэсу. Па-першае, сам калектыў складаўся з цікавых, неардынарных асоб. Рэй вялі, вядома, літаратары. Не губляліся сярод іх тэатра- і музыказнаўцы, тэхнічныя супрацоўнікі. Творчая, таварыская атмасфера дапамагала «новенькім» прыжыцца і рэалізаваць здольнасці.

Па-другое, была магчымасць навучыцца рэдагаваць творы ў аддзеле Юрася Свіркі. Асмялеўшы, пачала асвойваць журналістыку, усе яе жанры — ад заметкі да інтэрв'ю. Разам з іншымі асвятляла пісьменніцкія сходы і з'езды, адгукалася на новыя творы, удзельнічала ў дыскусіях, вывуджвала лепшае з пошты. Аднойчы мне даверылі нават аддзел крытыкі.

А пачыналася ўсё проста: на той час я пакінула літаратурную рэдакцыю тэлебачання, і рэдактар тыднёвіка запрасіў на працу. Я не адразу зразумела, на якую шырокую плынь мяне выносіць. Праца так легла на душу і так здоўжылася, што пры мне ў газеце змянілася пяць галоўных рэдактараў — ад Алеся Жука да Алеся Пісьмянкова. Слабыя матэрыялы прылюдна, на лятучцы, вяртаў толькі першы. Вельмі гэта, памятаю, дысцыплінавала… Я і па сёння ўдзячная Алесю Аляксандравічу за той нечаканы званок, які стаўся для мяне сапраўдный удачай.

Памятаю запоўнены кнігамі пакой — уласную рэдакцыйную бібліятэку, а таксама заўжды зацемненую фоталабараторыю, дзе праяўляў здымкі Уладзімір Крук, летапісец тагачаснай беларускай літаратуры. І напярэдадні юбілею прапаную чытачам абноўленага тыднёвіка нізку сваіх вершаў, аздобленую партрэтам з 1980-х гадоў.

**Ад аўтара**

***

*Дапытлівасць вяла мяне,*
*штурхала…*
*Я брала веды*
*з роспытаў і кніг.*
*Ды змоладу убогіх набліжала,*
*Пакуль не нацярпелася ад іх.*

*Душу захоўваць —*
*не высакамернасць.*
*Па кропельцы збіраюць*
*Дух Святы.*
*Занадта разбухае*
*аднамернасць,*
*Калі зашмат важдаешся*
*з ёй ты.*

***

*Што ж ты, ружа,*
*позна расцвіла?*
*Дзе ты ўлетку, гордая, была?*

*Так чакалі мы твае бутоны…*
*Бачым —*
*каралева без кароны.*

*Добра, што адумацца паспела*
*К лістападу*
*(на атаве — бела).*

*Зрэшты, кожны выбірае сам*
*Час цвісці —*
*насупраць халадам.*

***

*Нешта я палюбіла маўчанне,*
*Многа сэнсу ў ім і глыбіні.*
*Абступілі пражытыя дні,*
*А сказаць я нічога не ў стане.*

*Можа быць, на архангельскім*
*сходзе*
*Гэтым часам замінка была.*
*— Ты зрабіла усё, што магла, —*
*Аб'явілі. — Трывожыцца годзе.*

*Не філоніла ты, працавала,*
*За гады развязала вузлы.*
*Не змагла забяспечыць тылы?*
*Ну дык што?*
*Ты душу ратавала!*

***

*Шпакоўні нашы не заселены.*
*Іх жыхары прапалі.*
*Дзе яны?*
*Няўжо забыліся, нябогі,*
*Да нас нябесную дарогу?*
*Альбо зіма іх даканала?*
*Альбо нялюбым месца стала?*
*А нам, наадварот, з гадамі*
*Мілей сядзіба наша.*
*З намі*
*Яна у думках і турботах.*
*Узыдуць мальвы каля плоту,*
*І птушка выседзіць ячкі*
*Каля застрэшка у гняздзечку.*
*Гаспадару не будзе крыўды:*
*Найлепшы домік той,*
*што звіты.*

### Тайна

*Якоесь дрэва развесніцца*
*першым,*
*Якоесь першым лісты скідае.*
*Быць першым —*
*гэта не значыць лепшым,*
*Проста парода у дрэў такая.*

*Творца над імі карпеў*
*прывычна,*
*Кожны лісток выразаўся*
*дбайна.*
*Кожнай расліне — сваё*
*аблічча.*
*Кожная існая дробязь —*
*тайна.*

***

*Нікуды не спяшаецца рака,*
*На паваротах плёсы намывае.*
*Наперадзе так многа часу мае,*
*Няма ёй ні запруды, ні замка.*

*І мэта ёсць:*
*да большага даплыць*
*Ды зліцца з ім вірліваю*
*істотай.*
*А здарыцца, бывае, перашкода —*
*Дык можна абысці*
*ці разбурыць.*



Фота Кастуся Дробава.

***

*Дзе хаос, там Бог не начаваў.*
*Не дайшлі ў Тварца, напэўна,*
*рукі.*
*Не было ахвоты ці прынукі,*
*Меў зашмат*
*па гаспадарцы*
*спраў.*

*Ды хаос на цемру і святло*
*Падзяліўся ўрэшце.*
*Дзякуй Богу!*
*Кожны можа выбіраць дарогу,*
*Вызначаць —*
*дзе ісціна, дзе тло.*

*Нам свабодай варта даражыць,*
*Без яе былі б як недаробкі.*
*Рухаемся ўперад*
*крок за крокам,*
*Радыя такому шанцу — жыць!*

***

*Мы сюды даўнавата прыйшлі.*
*Пахадзілі па гэтай зямлі —*
*Па калюгах, пяску і каменні.*
*Мы спаўнялі*
*сваё прызначэнне.*

*Мы служылі, давалі і бралі,*
*Дарагіх ненавісньмі звалі.*
*Нарыдаліся, парагаталі.*
*Узвалілі свой досвед на шалі.*

*Пётра пусціць*
*(бо сам пры ўваходзе).*
*Ты ў якім, папытае, народзе?*

*Каму трэба, падлічыць*
*здабыткі,*
*Паскладае душы тваёй зліткі.*
*Непатрэбнае, пэўна, адкіне.*
*Зразумееш,*
*кім быў на Айчыне.*

---

## Вольга НОРЫНА



### Апошняя жанчына дона Хуана

*Ён рыцар і шчасце ў інтрыгах*
*знаходзіць,*
*Каханак мяняючы, круціць*
*раманы,*
*Калі з пупавінай на шыі*
*народзіцца*
*Жанчына апошняя дона Хуана.*
*Ён з кожнай пакуль расстаецца*
*без жалю,*
*Ляціць напярэймы, як новую*
*ўбачыць.*
*Яна забаўляецца, песцячы*
*лялек,*
*Пад коўдрай хаваецца*
*з кніжкай дзіцячай.*
*Ён стане багатым, крутым,*
*знакамітым*
*І будзе ўплываць на людзей*
*і падзеі.*
*Яна падрастае з душою*
*адкрытай,*
*Не знае, як лёс неўзабаве*
*складзецца.*
*Не знае, што будзе крыніцай*
*гаючай,*
*Не знае, якія ёй выпадуць раны,*
*Каму будзе першай і хто*
*іх разлучыць*
*Раней, чым сустрэнецца*
*з донам Хуанам.*
*Адкрылася сэрца насустрач*
*жаданню.*
*А вобраз жадання — у мройным*
*тумане.*
*Не бачыць прычын для сваіго*
*апраўдання*
*І просіць, як просяць нябесную*
*манну —*
*Калі ўжо кахаць, то найначай*
*героя,*
*І жыць, не шукаючы з іншымі*
*шчасця.*
*А ён паспрабуе жалезнай рукою*
*Бяссмерце ўхапіць — і ў вяках*
*не прапасці.*

*Усмешка. І дотык. І руны*
*маршчынак*
*На дрэве. І ў воблаку — ветру*
*дыханне.*
*Няма і не будзе ніякай прычыны,*
*Каб ім не сустрэцца пад знакам*
*Кахання.*

***

*Дажджы. І смутная трывога.*
*Шматкроп'і… Не знаходжу*
*слоў.*
*За лета ні радка жывога —*
*Ні пра жыццё, ні пра любоў.*
*Дакучны гэты збой праграмы*
*Сачу я ўжо каторы год,*
*Як быццам восень тэлеграмы*
*Мне з лета шле —*
*пра свой прыход.*

***

*Жыццё не радуе, не лучыць —*
*Наперакор маёй мальбе.*
*Ты не памёр, а я ў разлуцы*
*Нашу жалобу па табе.*
*Ні сэрцам спеўным, ні вачыма*
*Не праклінала, Божа збаў,*
*Хоць недзе ў вырai, магчыма,*
*Ты ўжо другую цалаваў.*

*Разрыў да каранёў, да болю,*
*І мы асуджаны ў жыцці*
*Па-рознаму высноўваць долю,*
*Па-рознаму ў нябыт сысці.*

### Скрыжаванне

*Я ролю выбрала пакорліва*
*вядомай,*
*Чакала і ляцела да цябе сама.*
*З табою і ў гасцях была душа*
*як дома.*
*З табою і ў мароз лагодзіла зіма.*

*Не прызямляла нас шчымлівае*
*каханне,*
*Не верыцца яшчэ, што ўсё*
*з вадой сплыло.*
*Перавяду дыханне — лёс*
*як скрыжаванне,*
*Адна іду цяпер. Зялёнае святло.*

*Надзеяй акрыліў — і я ўзлятала*
*вышай,*
*Ды не змяніў жыцця:*
*выгоднае аўто*
*Ты не прыпаркаваў, дагнаць*
*мяне не выйшаў.*
*І ўсё як мае быць, і я табе*
*ніхто.*

**З рускай мовы**
**пераклаў Мікола МАЛЯЎКА**

***

*Дні йшлі, нібы валы ўчарнелым*
*логам.*
*Уздыхам цяжкім ракатала рэха.*
*Я ў доме нашым вымыла*
*падлогу,*
*А мой каханы ўзяў і не прыехаў.*

*Адна ў пасцель кладуся спаць*
*уночы.*
*Малітва горка шэпчацца*
*святая,*
*Але каханы нават знаць*
*не хоча,*
*Што без яго я ціха паміраю.*

*Я ветразь залатаю караблінь*
*І паплыву услед вясне і лету.*
*Я выжыву. Я разлюблю. Пакіну.*
*Каб ведаў хто, чым я плачу*
*за гэта!*

**З рускай мовы**
**пераклаў**
**Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ**

# Сяргей БЕЛАЯР

# Шматхадоўка

## Навукова-фантастычнае апавяданне



Раніца нядзелі пачалася з выкліку да начальніка навукова-даследчай станцыі «Марс-VI» Інакенція Дрогача.

— Праходзь, Клім, сядай! — інжынер-геолаг апусціўся ў пластыкавае крэсла і падрыхтаваўся слухаць. — У Чаранкова адкрылася язва, так што ў рэйд да Лабірынта Ночы давядзецца выправіцца табе. Я памятаю пра выхадны, але больш няма каму — усе занятыя.

— Разумею, Інакенцій Іванавіч! Занадта шмат сродкаў выдаткавана на навуковую праграму, каб губляць каштоўны час.

— Натуральна, дзень я табе потым кампенсую!

— Добра! — просьба начальніка заўсёды падобна да загаду. Асабліва калі працуеш першы год. — Усюдыход гатовы?

— Так, можаш выязджаць хоць цяпер. План працы на сёння знойдзеш у бартавым камп'ютары. Паедзеш адзін, там нічога складанага: возьмеш пробы і зробіш замеры... Ты мне вельмі дапаможаш, Клім!

У ангары, побач з васьміколавай шматтоннай машынай, Чашніка чакаў тэхнік.

— Прывітанне, Пятровіч! Праверыў?

— А як жа? Усе сістэмы працуюць як гадзіннік! Бак поўны, батарэя зараджана, наконт кіслароду можаш не хвалявацца! — Хадыка дапамог Чашніку ўлезці ў скафандр. — Удалага рэйду!

Інжынер-геолаг кіўнуў і залез ва ўсюдыход, пасля чаго накіраваў яго да выхаду. Яшчэ некалькі хвілін пайшло на шлюзаванне.

Звонку Чашнік уключыў рэжым аўтаматычнага кіравання і вывеў на дысплей меню. Стандартны даследчы набор. А вось каардынаты прымусілі сэрца забіцца часцей. Рука машынальна кранула муфту кіслароднага шланга.

— База? — штэкер перамоўнай прылады ўвайшоў у гняздо на шламе. — Прыём!

— Слухаю, Жук-два!

— Праверка сувязі. Адбой!

Відэакамеры транслíравалі назалелыя за восем з паловай месяцаў пейзажы Марса. Задушлівую аднатоннасць фону не маглі змякчыць нават магутныя лічбавыя фільтры. Над грабенамі вісеў туман.

Да першай кантрольнай кропкі ўсюдыход дабраўся за тры чвэрці гадзіны. Грунт у гэтым месцы аказаўся мяккім, так што з бурэннем Чашнік справіўся з апярэджаннем графіка. На другой кропцы давялося павазіцца — на паўметровай глыбіні звышмоцны свердзел раптам сапсаваўся, а замяніць яго можна было толькі ўручную.

Перад трэцяй кропкай на сувязь выйшла Ожыч.

— Як мяне чуеш, Клім?

— Галіна?.. Што ты робіш у рубцы сувязі? Ты ж павінна быць у аранжарэі!

— Зараз усё зразумееш!

У наступнае імгненне ўсе маніторы пагаслі, а ўсюдыход змяніў кірунак руху і пачаў імкліва набіраць хуткасць.

— Што за... — прывязныя рамяні ўрэзаліся ў цела.

— Бывай, Клім!

Чашнік абмёр. Страх агаліў успаміны, якія, як здавалася інжынеру-геолагу, ён даўным-даўно пахаваў у падсвядомасці...

— База, гэта Жук-пяць!.. Адкажыце мне, база! — Усюдыход, падымаючы фантаны пылу і раскідваючы камяні, нёсся проста да краю бездані. — Я не магу спыніцца!

Аскер выварочваў руль у марнай спробе адвесці ўсюдыход у бок ад каньёна.

— Замкі люка заблакіраваныя!.. Што мне рабіць?.. База!

— Можаш не крычаць, Мсціслаў, цябе ўсё роўна ніхто не пачуе! — Пасля трэску перашкод ажыла перагаворная прылада, прымусіўшы Аскера схамянуцца.

— Клім?.. Гэта ты, Клім?.. Як добра, што ты на сувязі! Мне тэрмінова патрэбна дапамога! Машына выйшла з-пад кантролю!

— Я ведаю. Яе зламаў я.

Узрушэнне аказалася такім моцным, што ў Аскера адняло мову. Справіцца з шокам удалося толькі праз некалькі хвілін.

— Ты?.. Я не веру, што лепшы сябар здольны на такое!.. Мы ж са школы разам!

— Тым не менш гэта так, Мсціслаў! Я ўнёс сякія-такія карэктывы ў праграму. Можаш адпусціць руль — ручное кіраванне таксама заблакіравана.

— Божа, але навошта?

— А ты думаў, што я дазволю табе адабраць у мяне Галю?.. Яна мая, Мсціслаў! І я не збіраюся ні з кім яе дзяліць!

— Ты звар'яцеў! Неадкладна разблакіруй ручное кіраванне!

— Адзінаццаць кіламетраў. Ніякіх шанцаў выжыць.

Аскера кінула ў пот. Падзення з такой вышыні не вытрымае ні адзін усюдыход, якім бы звышмоцным ён ні быў. Што ўжо казаць пра слабае чалавечае цела?

Інстынкт самазахавання запатрабаваў неадкладных дзеянняў. Аскер расшпіліў рамяні і, трымаючыся за спінку крэсла, дабраўся да люка.

— Мсціслаў, няўжо ты думаеш, што я выпусціў такое з-пад увагі?.. Табе не выбрацца! Можаш пачынаць маліцца.

— Выпусці мяне, сволач!

— Нават не спадзявайся! Галя будзе належаць толькі мне! Аднаму!

— Яна кахае мяне! — Край каньёна імкліва набліжаўся. — Няўжо ты не бачыш відавочнага?

— Ты памыляешся, Мсціслаў.

— Дык спытай у яе сам!

— Я не буду азмрочваць нашы з Галяй адносіны крыўднымі падазрэннямі і дурнымі пытаннямі. Навошта, калі я ведаю дакладны адказ?.. Мы будзем разам, а ты... няшчасны выпадак. З кім не бывае?

— Цябе арыштуюць!

— А вось гэта наўрад ці. Мая другая спецыяльнасць — праграмаванне. Камп'ютары — мая вотчына, Мсціслаў. Зрабіць так, каб ніхто нічога не даведаўся, не так ужо і складана. Трэба толькі дакладна ведаць, што рабіць. Я ведаю!.. Дарэчы. Муфта кіслароднага шланга прылягае няшчыльна. Дыхальнай сумесі ў цябе засталося максімум на паўгадзіны.

Аскер кінуў погляд на манометр. Чашнік не падманваў.

Аскер паспешліва падагнаў муфту, разумеючы, наколькі гэта бессэнсоўна. Нават калі яму і пашчасціць ацалець пры падзенні, з такім запасам да станцыі не дайсці.

— Балон з аварыйным запасам пусты, я так разумею?

— А ты правер, Мсціслаў!.. Канечне ж, пусты! Працу трэба рабіць якасна ці ўвогуле за яе не брацца. — Аскер сціснуў кулакі ў бяссільнай злосці. — Табе не трэба было пачынаць.

— А калі я паабяцаю табе ніколі больш не падыходзіць да Галі? — Словы даваліся Аскеру з цяжкасцю. — Тады ты не станеш забіваць мяне?

— Я не такі наіўны, як ты думаеш, Мсціслаў. Перад смерцю людзі гатовыя даць любое абяцанне — толькі б выратаваць уласнае жыццё. Бяда ў тым, што потым яны не трымаюць слова... Скарыся! Праз чвэрць гадзіны Лабірынт Ночы стане тваёй магілай!

Аскер вылаяўся і запусціў скрыняй з інструментамі, якая трапілася пад руку, ва ўнутраную відэакамеру. Пырснулі аскепкі.

— Нервы, Мсціслаў! Я цябе выдатна разумею — прайгравáць заўсёды цяжка. І няважна, што́ стаіць на коне... Для таго каб бачыць, відэакамеры мне не патрэбныя. Дастаткова ўяўлення!

— Калі б я ведаў, што ты такі...

— Вылюдак?.. І што тады, Мсціслаў? Паспрабаваў бы забіць мяне першым?.. Наўрад ці. Кішка тонкая!.. Ты не ва ўсім лепш за мяне!

Карцінка на дысплеях змянілася: цяпер усе яны паказвалі Чашніка, які ўхмыляўся. Аскер не вытрымаў і адзін за адным разбіў іх дашчэнту, пасля чаго рванул штэкер перамоўнай прылады і стомлена паваліўся ў крэсла.

Больш за Ожыч яму было шкада таварыша...

— Галя, гэта не смешна! — як ні стараўся Чашнік вярнуць кантроль над усюдыходам, нічога не атрымлівалася. Ожыч аказалася большым спецыялістам, чым ён сам. — Спыні машыну!

— Не падабаецца адчуваць сябе ахвярай, Клім? — Успыхнулі маніторы, і інжынер-геолаг убачыў біёлага.

— Галя, я прашу цябе дзеля нашага кахання спыніць усюдыход!

— Як вы мне ўжо надакучылі са сваім чортавым каханнем! Што, абавязкова ўсё ўскладняць?

Ожыч пайшла тым жа шляхам — не ўтрымалася ад спакусы нацешыцца пакутамі ахвяры. Усё як і мінулым разам — зачынены люк, мінімальны запас кіслароду, пяцьдзясят кіламетраў да прорвы...

— Ды мне не патрэбна ніякае каханне! Ні тваё, ні Аскерава! Якога д'ябла вы наогул убілі сабе ў галовы, што я чакаю вашых заляцанняў?

Пачуць падобнае прызнанне было вельмі балюча. Чашніка захліснула крыўда — выходзіць, усе ахвяры марныя?

Нагадала пра сябе сумленне. Інжынер-геолаг схапіўся за галаву.

— Позна каяцца, Клім! Сяброў трэба шанаваць, калі яны ёсць, а не пасля таго, як іх страціш!

Нягледзячы на душэўнае замяшанне (ці, хутчэй, дзякуючы яму), мозг Чашніка з ліхаманкавай хуткасцю пачаў шукаць выйсце.

— Але чаму, Галя? — падсвядома інжынер-геолаг адмаўляў відавочнае. Фарс здаваўся кашмарным сном. Хацелася заплюшчыць вочы і забыцца пра ўсё.

Аднак праклятая рэальнасць не адпускала.

— Чаму?.. Вы са сваім каханнем перашкаджалі мне! Вось чаму. Вашымі стараннямі я апынулася ў цэнтры ўсеагульнай увагі, а маёй прафесіі гэта шкодзіць!

— Пра што ты кажаш?.. Якая сувязь?

— Мне патрэбен Дрогач, дакладней, тое, што ў яго ў галаве!

— Я ўвогуле не разумею, пра што ты! «Марс-шэсць» — мірны навуковы праект! — пальцы паранейшаму барабанілі па клавішах, а ў сэрцы цеплілася надзея. Ні адна з праграм не можа быць дасканалай. У яго ўсё атрымаецца. Трэба толькі выбрацца. Псіхалагічныя зрывы здараюцца ў кожнага. Марс — далёка на рай.

На тое, каб знайсці падыход да камп'ютара, патрабаваўся час. А вось яго ў Чашніка не было. Здавалася, працягні руку — і дакранешся да туману. Адзін з дысплеяў пераключыўся на трансляцыю паверхні.

— Ты і не павінен нічога разумець, Клім! Веды забіваюць!.. Тваё прызнанне ў мяне, так што на расследаванне можаш не разлічваць.

— Якое прызнанне? — выкараскацца не атрымлівалася. Ожыч перамагала яго.

— У забойстве Аскера.

— Што за трызненне, Галя?.. Якое яшчэ забойства?.. Я нікога не забіваў! — мозг кальнула непрыемная здагадка. Занадта неверагодная, каб быць праўдай.

— Табе б на тэатральных падмостках выступаць! Колькі здзіўлення! Брава, Клім!.. Асноўная памылка дылетантаў заключаецца ў тым, што яны лічаць, нібы ўсё прадугледзелі. Думаеш, цяжка было ўзламаць канал? — у руцэ біёлага з'явіўся USB-флэш-назапашвальнік. — Любы суд, валодаючы гэтым відавочным доказам тваёй віны, палічыць, што пакуты сумлення штурхнулі цябе на самагубства... Твая рэўнасць прыйшлася як нельга дарэчы!.. Вы ж былі сябрамі?

— Сябры не здраджваюць!

— Самому не смешна, Клім? Ты ж менавіта гэта і зрабіў!

— Я кахаю... гэта значыць, кахаў цябе. Я пайшоў на гэта дзеля кахання!

— Дурнота якая! Табе не пятнаццаць гадоў, Клім!.. Каханне?! Ты б мне няшчэ шлюб прапанаваў.

— Збіраўся, — Ожыч засмяялася. — Двое дзяцей. Уласны дом...

— Дзеці?.. Ды каму патрэбныя гэтыя маленькія гарластыя пачвары?.. Ад іх адны праблемы!

— Не болей, чым ад дарослых, — інжынер-геолаг пачаў патроху цверазець, наракаючы на сябе, што абраў не тую.

— Грошы — вось сапраўдная каштоўнасць! Як толькі я скончу тут, атрымаю шмат і не буду больш выконваць нічые загады! Што можа быць лепш, чым жыццё ў сваё задавальненне?

— Давай дамовімся!

— Табе няма чаго прапанаваць мне, Клім! Так што ніякага гандлю не будзе!.. Нешта мы з табой загаварыліся!.. Бывай назаўсёды!

Карцінка зноў змянілася. Да прорвы заставаліся лічаныя кіламетры.

— Ну давай жа, спыняйся! — паніка ледзянымі абцугамі сціснула сэрца. Нібы насміхаючыся над інжынерам-геолагам, усюдыход павалічы ход. — Не атрымліваецца!

Машына выйшла на фінішную прамую. Чашнік пачаў у роспачы лупіць па пульце кулакамі. Злосць патрабавала выйсця. Буянства прагніравалася надоўга: перад інжынерам-геолагам адкрылася велічная панарама. Аднак ацаніць маштаб Лабірынта Ночы не ўдалося — у наступнае імгненне прытомнасць пакінула Чашніка...

— Ну як ён, доктар? — Першае, што ўбачыў інжынер-геолаг, ачуняўшы, былі твары начальніка медыцынскай службы і намесніка кіраўніка службы бяспекі, схіленыя над ім.

— Інсульт! — канстатаваў Харчанка, корпаючыся з партатыўным дыягностам, падключаным да скафандра Чашніка.

Інжынер-геолаг да крыві закусіў губу! Жывы! Значыць, у яго ўсё ж атрымалася! І ўсё роўна як!.. Ён жывы! ЖЫВЫ!

— Ачуліся, грамадзянін Чашнік? — сістэма ўнутранай сувязі аўтаматычна знайшла патрэбны канал. — Я арыштоўваю вас па абвінавачванні ў забойстве Мсціслава Аскера, другога інжынера-вулканолага!.. Грузіце яго ва ўсюдыход і адпраўляйце на станцыю!.. «Двойку» — на буксір!

Моцныя рукі падхапілі інжынера-геолага і выцягнулі з усюдыхода. Машына, пакінуўшы дзве глыбокія разоры тармазнога шляху, замерла за дзесяць метраў ад краю.

Чашніка без асаблівых цырымоній паклалі на насілкі, якія пасля занялі месца ў медыцынскім усюдыходзе. Па абодва бакі ад інжынера-геолага паселі супрацоўнікі службы бяспекі. Са зброяй. Даволі недвухсэнсоўны намёк.

Чашнік нават не думаў пра ўцёкі. Не ў яго стане — ад слабасці каламуціла, а перад вачыма скакалі яркія іскры.

— Так, Інакенцій Іванавіч, узялі! — дзякуючы таму, што Мармілін не адключыў унутраную сувязь, інжынер-геолаг мог без праблем усё чуць.

— Супраціву не аказаў?

— Не!

— Што ж, значыць, гульня скончана! Дзякую за службу!

— Што з Ожыч, Інакенцій Іванавіч?

— Западозрыла няладнае і прыняла атруту. На шчасце, знішчыць запісы не паспела.

Чашнік ніяк не мог зразумець, пра якую гульню ідзе гаворка, а спытаць наўпрост было нельга.

— Адбой сувязі!.. І мусіла ж вас, грамадзянін Чашнік, звязацца са шпіёнкай!

Інжынер-геолаг не адразу ўцяміў, пра што кажа Мармілін. А калі ўсвядоміў... Дзень не пераставаў падносіць сюрпрызы. На жаль, непрыемныя.

Да абвінавачвання ў забойстве дадавалася супрацоўніцтва з замежнай разведкай. Пры такім раскладзе разлічваць не было на што. Лепш бы ён разбіўся...

Інжынер-геолаг заплюшчыў вочы, змагаючыся са слязьмі. Ён толькі што страціў усё — і лепшага сябра, і каханую жанчыну, і працу, і свабоду, і жыццё.

Усюдыход крануўся.

— З іншага боку, калі б не вы, грамадзянін Чашнік, мы б яшчэ вельмі доўга маглі шукаць «крата». Сваёй рэўнасцю вы зблыталі Ожыч усе карты!

— Што ёй было трэба?

— Інфармацыя пра даследаванні на «Марсе-шэсць».

— Якую каштоўнасць могуць уяўляць пясок, камяні і лёд? Дадзеныя ёсць у адкрытым доступе!

— Ожыч цікавіла іншае — іншапланетны артэфакт...

*Надрукавана ў «Маладосці»*

# Бог над Ліцвініяй



Малюнак А. Ісы.

Людзі на працягу ўсяго існавання намагаюцца разгадаць сакрэты Космасу. Спрабавалі насяліць яго багамі рознага кшталту і гатунку, адкрывалі і вывучалі новыя планеты, лёталі да іх, але пакуль так і не зразумелі таямніцы светаўпарадкавання. Чалавек дагэтуль з цікавасцю і спадзяваннем, а часам і з дакорам за тое, што робіцца на Зямлі, узіраецца ў зорнае неба. Вашай увазе прапануецца чарговая мастацкая трактоўка касмічнай тэмы.

...За зямнымі справамі ў Ліцвініі ды іншых краінах свету назіраюць небайдужыя адэпты касмічнай школы, якая рыхтуе Творцаў. Далучыцца да гэтай навучальнай установы выпадае адзінкам з усяе шматаблічнай моладзі планеты. Ад кожнага лапіка зямнога шара выбіраецца адзін юнак (прынцып адбору невядомы), якому наканавана прайсці навучанне ў касмічнай школе, а пасля стаць Творцам і Уладаром тае зямлі, адкуль яго забралі.

Недзе ў Прасторы па-за Часам размешчаная краіна Ліцвінія — правінцыя магутнай Масеі. Масейцы намагаюцца сцерці з памяці ліцвінаў слыннае мінулае іх бацькаўшчыны: далі ім новае найменне — бялусы, прыдушылі паўстанні, забаранілі мову. Толькі старыя людзі памятаюць, што было да перамогі Масеі, моладзь жа цалкам верыць масейскім байкам.

Чытач вымушаны разрывацца паміж Космасам і Зямлёй: падзеі перарываюцца, мяжуюцца. Уваходзіць у курс справы трэба хутка, але ўдумліва, інакш рызыкуеш не зразумець, што да чаго. Знітоўвае на пачатку ўсе падзеі ліцвін Кастусь — звычайны юнак, які перажывае ўсе выгоды пубертатнага перыяду. Прычына яго знаходжання ў касмічнай школе не тлумачыцца. Хіба што сваяцтва з дзедам Міхалам ёсць важкай генетычнай рэкамендацыяй для моцных Космасу. Менавіта класічны дуэт мудрага дзеда і цікаўнага ўнука раскрывае чытачу праблемы быцця.

Стары размаўляе з унукам пра сакрэты гарманічнага суіснавання чалавека і прыроды, выказвае меркаванне адносна касмічнага ўладкавання, расказвае пра мінулае Ліцвініі. Дзед Міхал — увасабленне мудрасці і гармоніі. Язычнік паводле светабачання, ён верыць у «нябесных творцаў», якія кіруюць зямным жыццём, а ўсе негаразды на планеце вытлумачвае непаразуменнем паміж творцамі. Адданы патрыёт, Міхал у свой час змагаўся за волю Ліцвініі, аднак паўстанне пацярпела паразу. Дзед не скарыўся духам і працягвае жыць з любоўю і павагай да роднай культуры.

> *Міхал, адзін з галоўных герояў, лічыць нацыянальную мову адметнасцю, якая дазваляе народам адрозніваецца ў шматгалосым Боскім хоры. Захаванне гармоніі «Прырода — Чалавек — Мова» забяспечвае моц і росквіт краю. Слова чужынца негатыўна ўплывае на ўсё жывое, а слова роднае, дадзенае гэтай зямлі і яе насельнікам найвышэйшай сілай, гоіць і жывіць наваколле.*

> *Для таго каб чытач змог заглыбіцца ў працэс навучання, яму спатрэбіцца добрае ўяўленне. Адразу спасцігнуць сутнасць усіх аперацый і трэніровак не атрымаецца. Дух вышэйшы за Матэрыю, тварэнне ніколі не пераўзыдзе Творцу — некаторыя са шматлікіх тэзісаў касмічнай школы.*

Дарэчы, Міхал лічыць нацыянальную мову галоўнай адметнасцю, якая дазваляе народам адрозніваецца ў шматгалосым Боскім хоры. Нават прырода квітнее і буяе, калі чуе роднае слова з вуснаў жыхара гэтай зямлі, лічыць стары ліцвін. Захаванне гармоніі паміж трыадзінствам Прырода — Чалавек — Мова забяспечвае моц і росквіт краю. Слова чужынца негатыўна ўплывае на ўсё жывое, а слова роднае, дадзенае гэтай зямлі і яе насельнікам найвышэйшай сілай, гоіць і жывіць наваколле. «Раўнадушша да роднай мовы ёсць найвялікшая перамога ворага», — вучыць унука Міхал. Афарыстычна выказваецца дзед адносна прагі чалавека да грошай, спрачаецца з трактоўкай Царквы датычна статусу чалавека як вянца тварэння. Дзед Міхал выказвае яшчэ багата цікавых і слушных думак, праз гэта герой уяўляецца самым прыцягальным і глыбокім сярод іншых герояў твора.

Што да ўнука, ён, бадай, нічым не адрозніваецца ад купы юнакоў, якія дзіўным чынам трапілі да касмічнай школы з усіх куточкаў планеты. Кастусь — добры, цікаўны хлапец, смелы, дужа прывязаны душой да роднага краю, сям'і. Аднак захаванне Гармоніі ў Сусвеце і стваральная праца на карысць Радзімы змушаюць юнака адсунуць на другі план сум па родным і дарагім. Трапіўшы ў касмічную школу пана Альгерда, ён папярэдне прайшоў навуку ў легендарных настаўнікаў (а можа, проста цёзак міфічных багоў і герояў) — Гекаты, Ікара, Афрадыты... Разам з іншымі юнакамі, пахожанне і лёс якіх невядомыя, Кастусь авалодаў майстэрствам Творцы і стаў Богам над давераным яму адцінкам зямлі — сваёй радзімай.

Для таго каб чытач змог заглыбіцца ў працэс навучання, яму спатрэбіцца добрае ўяўленне. Адразу спасцігнуць сутнасць усіх аперацый і трэніровак атрымліваецца не заўсёды. Дух вышэйшы за Матэрыю, тварэнне ніколі не пераўзыдзе Творцу — некаторыя са шматлікіх тэзісаў касмічнай школы.

Сама вучэльня — праект пана Альгерда, адэпта касмічнай навукі, які не пажадаў застацца ўбаку, калі Сусветнае Зло пачало замінаць яго паплечнікам займацца творчасцю. Моладзь спатрэбілася Альгерду, каб падмацаваць шэрагі старых адэптаў, што разляцеліся па Прасторы і Часе. Хто ў свой час перадаў яму таемныя веды і падрыхтаваў першых адэптаў, невядома. Адкуль узяліся першыя вучні, невядома. І чаму старым адэптам, на думку Альгерда, патрэбна дапамога маладога пакалення, таксама невядома. Магчыма, і ў касмічнай сістэме адукацыі ёсць агрэхі. Неапераныя юнакі, якія не спазналі як след нават зямной навукі, мусяць укласці ў свае галовы сакральныя веды ўладкавання Сусвету. Мудры дзед Міхал, на мой погляд, больш падыходзіць на ролю Творцы, бо ў такім разе верагоднасць неабачлівых учынкаў з боку адэпта істотна змяншаецца. Самалюбаванне і пыха маладых «спецыялістаў», зразумела, прывяла да невялікага дысбалансу. Аднак аб'яднацца перад тварам Зла маладым Творцам удалося.

Нераскрытым засталося пытанне, хто ці што ёсць Бог. Маладыя адэпты — Багі бясспрэчна. Іх Настаўнікі, пан Альгерд, мудры Ібаоф — не меншыя Багі. Аднак ёсць неспазнаны Ён, якому справа Альгерда даспадобы. Гармонія таксама прэтэндуе на званне адзінага Бога, адэпты ж у такім выпадку — памагатыя. «Бог — гэта разам Усё і Нішто, якія ў Кропцы злітыя ў Абсалют». Такое сцвярджэнне найбольш адпавядае логіцы развіцця падзей у творы. Аднак з Боскім пытаннем застаюцца і непаразуменні праз недахоп лагічнага абгрунтавання думкі ў межах мастацкага твора.

Складваецца ўражанне, што «Ільвінае вока» не завершаны расповед, а падмурак для больш маштабнага твора, бо закладзеныя ідэі патрабуюць раскрыцця, паглыблення, сюжэт — працягу і дэталізацыі пэўных ліній (гісторыя Ліцвініі, лёс сям'і Кастуся, раскрыццё ўладкавання Космасу ў глабальным плане). Магчыма, перадгісторыя ўжо апісаных падзей дапаможа больш цэльна зразумець аўтарскую канцэпцыю.

**Віялета ВАШЧЫЛІНА**

# Сын гор і сонца

**Падобную серыю выпускае з 2008 года выдавецтва «Чатыры чвэрці»: «Асоба і час» распавядае пра сучасных пісьменнікаў — Анатоля Аўруціна, Алеся Савіцкага, Міхася Пазнякова, Навума Гальпяровіча... Але кніга «Чалавек гары і сонца», што пабачыла свет у выдавецтве «Каўчэг», істотна адрозніваецца ад выданняў «Чатырох чвэрцяў».**




Па колькасці прадстаўленага матэрыялу да яе набліжаецца хіба што аб'ёмны том «Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой...». Як воблік слыннага даследчыка і празаіка У. Гніламёдава яскрава прачытваецца ў шматлікіх артыкулах, эсэ, рэцэнзіях ды звычайных чытацкіх водгуках, так і шматграннае творчае аблічча Ганада Чарказяна (а «чалавекам гары і сонца» яго трапна назваў Навум Цыпіс) бачыцца праз успрыманне даследчыкаў ягонай творчасці, рэцэнзентаў кніг ды сяброў, бо як не сказаць слова пра таго, чый след у беларускай літаратуры не толькі яркі, але і знакавы.

Пра гэта гаворыць у сваім артыкуле «Спасцігнуць ісціну» ўжо згаданы У. Гніламёдаў. Адкрываецца ж кніга выдатным эсэ Н. Цыпіса «Партрэт на фоне рамана». Тое, што да асобы Г. Чарказяна звярнуліся самыя розныя творцы, лішні раз сведчыць, наколькі моцна прыцягальнае поле творчасці паэта, як непаўторна піша ён — так, што, аднойчы прачытаўшы штосьці са створанага ім, абавязкова захочацца разгарнуць чарговую яго кнігу, звярнуцца да чарговай публікацыі.

З эсэ «Партрэт на фоне рамана» можна даведацца не толькі пра асобныя старонкі біяграфіі «чалавека гары і сонца», але і пра гісторыю слаўнага курдскага народа, сынам якога і з'яўляецца Г. Чарказян. Але не будзе лішнім зазначыць, што Ганад, вобразна кажучы, і сын Беларусі таксама.

Сімвалічна, што творчаму дый жыццёваму станаўленню Г. Чарказяна шмат паспрыялі Пятрусь Броўка, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін... Вядома, у кнізе «Чалавек гары і сонца» змешчаны іхнія ацэнкі творчасці Г. Чарказяна, і ацэнкі гэтыя, дадзеныя зусім не авансам, высокія.

Паэт, звязаўшы лёс з беларускай зямлёй, стаў на ёй выказнікам дум і спадзяванняў свайго народа. Трапна прыкмеціў Р. Барадулін: «Сам лёс блаславіў Ганада Чарказяна быць ранішняй памяццю і вечаровым роздумам».

Кніга «Чалавек гары і сонца» скампанаваная так, што чарговы матэрыял дапаўняе папярэдні. Гэта несумненная заслуга яе ўкладальніка Івана Канановіча, але навідавоку і іншае: кожны, хто некалі пісаў — дый піша — пра новыя публікацыі Г. Чарказяна, заўсёды згадваў і папярэднія творы. Так паступова складаецца «творчы партрэт Ганада Чарказяна», а такі падзагаловак і мае кніга.

Аўтары ж партрэта, апроч ужо названых, — Ігар Васілевіч, Алесь Карлюкевіч, Казімір Камейша, Алесь Марціновіч, Мікола Шабовіч, Васіль Шырко ды іншыя. Усе яны не пачаткоўцы ў крытыцы і літаратуразнаўстве. Змешчаныя таксама інтэрв'ю, што дае магчымасць спасцігнуць сакрэты творчай лабараторыі паэта і, як кажуць, з першых вуснаў даведацца, што цікавіць яго, хвалюе, што з'яўляецца вызначальным у ягоным жыцці ды творчасці. Усё гэта, разам узятае, робіць аблічча «чалавека гары і сонца» зямным, запамінальным; герой кнігі паўстае неадрыўна ад свайго часу і бачыцца чынным яго ўдзельнікам.

**Віталь ІВАНЧАНКА**

*Там, за гарой...*
*Там, за гарой, гара,*
*Крочаць пад неба горы,*
*Там, за морамі, мора,*
*І мне ўжо туды пара...*

*А тут і дні, і думкі бягуць*
*Адной і той жа дарогай,*
*А я ўсё надзею дагнаць не магу,*
*Якая мне абяцала так многа...*

*Хто музыкай роднай свой*
*дзень пачынаў,*
*Марай сваёй не збег за аблокі.*
*А новай струной заспявае*
*вясна,*
*Мы вернемся зноў туды,*
*да вытокаў.*

*Там, за гарой, гара,*
*Крочаць пад неба горы,*
*Там, за морамі, мора,*
*І мне ўжо туды пара...*

**З курдскай.**
**Пераклад**
**Казіміра КАМЕЙШЫ**

З «Кнігарні пісьменніка»

# Любоў Турбіна і яе перакладчыкі




**Імя Любові Турбіной добра вядомае ў мінскім літаратурным асяроддзі. Сёння паэтэса працуе ў Маскве, у Інстытуце сусветнай літаратуры, а сябры з цеплынёй згадваюць яе хатні салон. Л. Турбіна спрыяе творчым кантактам між пісьменнікамі Расіі і Беларусі, перакладае творы беларускіх паэтаў. Сёлета выйшла з друку кніга Любові Турбіной «Цягнік "Мінск — Масква"», дзе змешчаны яе вершы і іх пераклады на беларускую мову.**

«Я пішу, каб даць рады жыццю. Я проста не ўяўляю, як існуюць тыя, хто па-збаўлены такой магчымасці, вельмі ім спачуваю», — шчыра адказала Любоў Мікалаеўна ў размове з Галінай Дубянецкай. Такі адказ выдатна тлумачыць яе паэзію. Вершы Л. Турбіной — гэта выказванне ўласнага настрою і светаўспрымання, зварот да значных ураженняў і ўспамінаў, асэнсаванне пэўных жыццёвых сітуацый. Гэта вельмі асабістая паэзія, дзе гістарычны і сацыяльны кантэксты амаль неактуальныя. Разгубленасць, меланхолія, смутак аб каханні, светлыя ўспаміны сяброўства — вядома, пісаць пра гэта можна ў якім заўгодна стагоддзі, і пазнакі часу кшталту атрыманай смс-кі ці згадкі пра няісны Савецкі Саюз з'яўляюцца ў зборніку даволі рэдка.

Калі чытач не аматар інтымнай лірыкі, то адразу паставіць пытанне: якая яму карысць ад знаёмства з багатым духоўным светам паэтэсы і наогул ад вершаў такога кшталту? Адказаў можна знайсці нямала. Па-першае, узнёслыя і вытанчаныя творы робяць чытача таксама больш узнёслым і вытанчаным — прынамсі, на працягу чытання і на той час, пакуль водгулле радкоў застаецца ў памяці. Калі ж самазасяроджанасць і празмерная чуллівасць, уласцівыя многім паэтам, падаюцца чытачу зусім не дадатнымі рысамі, то ёсць яшчэ адзін істотны момант.

У сучасным грамадстве чалавек значны найперш наборам сваіх сацыяльных роляў, а як асоба ён можа цікавіць толькі вузкае кола самых блізкіх людзей. Літаратура, мастацтва, музыка сцвярджаюць каштоўнасць кожнай індывідуальнасці і кожнага жыццёвага імгнення. Менавіта таму мастацкая літаратура — з'ява глыбока гуманістычная, яна дапамагае з увагай ставіцца не толькі да сябе, але і да іншых. Тут ёсць нямала выключэнняў у выглядзе асобных імёнаў і нават літаратурных школ, але творы Л. Турбіной — прыклад паэзіі, якая ўзбагачае, узносіць над банальным, хоць і не гарантуе безумоўна пазітыўных эмоцый. Бо паэт, які піша, «каб даць рады жыццю», часта распавядае пра свае непаразуменні з існым і праз творы выяўляе адчуванне дысгармоніі:

*Восень! Вось твае ўборы —*
*Ў золаце і крыві...*
*Рэзкі разрыў прасторы,*
*Выспа былой любві.*
*Як і тады, калісьці:*
*Парк, парадыз, сад,*
*Шоргат сухога лісця —*
*Рэха мінулых страт...*
(«Дзень напачатку лістапада»)

> *Літаратура, мастацтва, музыка сцвярджаюць каштоўнасць кожнай індывідуальнасці і кожнага жыццёвага імгнення. Менавіта таму мастацкая літаратура — з'ява глыбока гуманістычная, яна дапамагае з увагай ставіцца не толькі да сябе, але і да іншых. Творы Л. Турбіной — прыклад паэзіі, якая ўзбагачае, узносіць над банальным, хоць і не гарантуе безумоўна пазітыўных эмоцый.*

Зрэшты, чытаць вершы Л. Турбіной варта проста за іх прыгажосць. Карункі з паэтычных слоў, вытрыманы памер, спакойная гармонія вобразаў, якія не ўражваюць экзатычнасцю, а натуральным чынам ператвараюць падзеленае на радкі выказванне ў паэзію. «Фасоли грядка как строка», «улица тихо вплывала во мглу», «двери беззвучны». «Все прежние наши любови проснулись с весною, / Незримой преградой текут между Вами и мною»… Выкшталцоныя анапесты і амфібрахіі бяруць у палон, падчас першага чытання твораў нават не даводзіцца засяроджвацца на сэнсе радкоў — так захапляе класічная мелодыка верша. Але ў перакладзе на беларускую мову цудоўнае *glissando* ўжо не атрымліваецца, словы вымушаюць затрымацца, задумацца, перачытаць арыгінал.

У кнізе «Цягнік "Мінск — Масква"» сабраны творчы даробак пяці перакладчыкаў: Людкі Сільновай, Міколы Шабовіча, Рэгіны Рэўтовіч, Сержука Сыса і Галіны Дубянецкай. Некаторыя творы прадстаўлены ў некалькіх перакладах. Найбольш пашанцавала вершу «Мимо пролетают — тени не спугнут...», які тройчы пераствораны па-беларуску. Хуткаплыннасць часу ў гэтым творы робіцца амаль неістотнай дзякуючы «светламу дзьмухаўцу дзіцячай галавы». «Існае — а дзеці ўсё ж мудрэй за нас — / Чыніцца ў сусвеце тут — у гэты час», — так найбольш дакладна ў параўнанні з іншымі аўтарамі перадае заключныя радкі Г. Дубянецкая.

Калі арыгінальны верш і яго пераклад змешчаныя на суседніх старонках, чытач абавязкова возьмецца супастаўляць тэксты і ацэньваць працу перакладчыка. Вядома, пры ўмове, што дастаткова добра ведае абедзве мовы — як у выпадку з рускай і беларускай. Сэнсавыя недакладнасці часам сустракаюцца ў зборніку, да таго ж нескладана заўважыць, што ясныя, зразумелыя вершы перакладаюцца больш адэкватна, чым творы, якія дапускаюць вольнае прачытанне. Напрыклад, гэта датычыць верша «Ты ёсць, — засведчыць Бог...» — дзе аўтар і перакладчык пішуць нібы пра рознае. Прынамсі, у М. Шабовіча не цалкам атрымалася спалучыць расповед пра асбістае з біблейнымі вобразамі і алюзіямі.

Многія месцы, дзе перакладчыкі дадаюць нешта «ад сябе», падаюцца даволі спрэчнымі, а асобныя словы часам замяняюцца на лексемы зусім іншага значэння (фантастический город — камфартабельны горад, сумасбродно — чынна-годна, красиво — цярпліва). Найлепшымі падаюцца пераклады Сержука Сыса і Галіны Дубянецкай, якія пакідаюць амаль такое ж уражанне, як арыгінальныя творы. Зрэшты, параважаць над эквівалентнасцю перакладу часам таксама карысна: магчыма, дзякуючы «Цягніку "Мінск — Масква"» хтосьці адчуе сябе ў ролі перакладчыка і сур'ёзна зоймецца гэтай справай. Бо каб пазбегнуць недакладнасцей, патрэбныя кемлівасць, вынаходлівасць і выдатнае валоданне мовай. А творчыя набыткі Любові Турбіной і яе перакладчыкаў безумоўна вартыя падсумавання — бо абяцаюць сустрэчу з паэзіяй і магчымасць цікавых супастаўленняў!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Кніга прадастаўленая «Кнігарняй пісьменніка» (вул. Казлова, 2).*

---

Нататкі чытача

**Час ад часу нашыя чытачы дзеляцца літаратурнымі ўражаннямі, гэтым разам — пра новы зборнік жаночай паэзіі. Спагада, любоў, імкненне да суладдзя сапраўды вартыя ўзнёслых радкоў, і добра, што вершы беларускіх паэтэс кранаюць і захапляюць іншых…**

# Ціша пасля дажджу

Мары робяцца явай, ява сплывае снамі, ператвараецца ў пачуцці, у шчырае хваляванне адкрытага навакольнаму свету нераўнадушнага сэрца... Нездарма кнізе вершаў Вольгі Шпакевіч пад назвай «Душа-скарбонка», якая пабачыла свет у выдавецтве Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду, папярэднічае звонкі эпіграф:

*У маёй душы-скарбонцы*
*Назбіралася за век*
*Столькі неба, столькі сонца,*
*Столькі чысціні ад рэк!*

Сем раздзелаў зборніка — «Там бярозы, бялейшыя ў свеце», «Наталю сваю смагу», «І зірну на жыццё весялей», «Да людской душы дайсці», «Каханне, шчасцейка маё», «Палітрай фарбаў і мелодый», «Высяваю зярняты надзей» — прысвечаныя штодзённым клопатам нашай сучасніцы, радзіме, роздуму пра перажытае, успамінам пра дзяцінства і маладосць, пра зямлякоў, з якімі не так і часта выпадае спаткацца, пра родных і блізкіх паэткі. Трэба адзначыць, што гэта своеасаблівы працяг кнігі вершаў «І тку жыцця сувоі», выдадзенай у 2012 годзе. Паўднёвая Беларусь, родная вёска Кароцічы, Столін, і, безумоўна, Давыд-Гарадок — «кветкаводаў сталіца» — пастаянная крыніца натхнення, найкаштоўнейшы скарб:

*Я помню, як сёння, праз гэтулькі год:*
*У кветках звінелі палескія сёлы,*
*І звечара кожны даваў агарод*
*На зорках настоены пах мацыёлы.*

Гэтыя матывы знітаваныя з тэмай кахання — неўміручага пачуцця, якога чалавек з нецярпеннем чакае, на якое «хварэе» ад юнацтва да сталых гадоў, беражэ, праносіць праз усе нягоды і выпрабаванні. Розныя «гатункі» і праявы гэтай таямнічай субстанцыі ў вершах «Наліліся спакусай ранеты», «Пасляшаліся гады», «Прыйшоў у лёс, як зорка»... Каханы ў пэўнай ступені застаецца «за кадрам» — паэтка наўмысна пазбягае індывідуалізацыі галоўнага героя: «Мне досыць, каб толькі прыйшоў ты».

Галоўная дзеючая асоба ў вершах Вольгі Шпакевіч — жанчына. Шчаслівая, маркотная, задуменная, разгубленая, насцярожаная, узнёслая, жыццярадасная, часам па-свойму хітрая і нават раззлаваная, яна ўсё роўна прыгожая перажыванням таго непаўторнага імгнення, калі «дыхае восень не слотай, а зманлівым пахам вясны», летуценным чаканнем чагосьці няўлоўнага, без чаго жыццё гублье сэнс, хоць даўно «заблудзілася каханне, пасляшаліся гады». Часам жанчына дакарае сябе за неасцярожныя словы, «грэшныя» думкі, неабачлівыя ўчынкі, але застаецца непрадказальнай і неспасцігальнай.

У час панавання рацыяналізму нечакана гучаць словы лірычнай гераіні пра здольнасць і патрэбу «любіць сябе і блізкіх, а Бога — дык найперш», што падкрэсліваюць асноўныя пастулаты гуманістычнага існавання ў соцыуме, імкненне жыць у суладдзі з законамі прыроды, не парушаючы спрадвечную раўнавагу Сусвету. Менавіта ў гэтым, з пункту гледжання аўтара, — асноўнае прызначэнне чалавека на зямлі.

Пра разнастайнасць поглядаў, права кожнага чалавека зрабіць і выправіць памылку, мець уласнае стаўленне да рэчаіснасці — вершы «Агеньчык», «Імгненне», «Не на тую ступіла сцяжыну і не той сабе выбрала шлях», у той час як «Ля царквы», «Жабрак», «Дарогі», «Несмяротнасць душы» выяўляюць такія адмоўныя чалавечыя праявы, як страта сумлення, спагады, пачуцця ўласнай годнасці, усёдазволенасць, жорсткасць і абыякавасць.

Загаіць душэўныя раны, не згубіцца ў гэтым свеце дапамагаюць пераканане «мы будзем жыць, упарта жыць!», прага шчасця, адчуванне паяднанасці з усім існым:

*Папасвіць зоркі месяц выйшаў,*
*Аблюбавалі рыбы вір…*
*Пасля дажджу такая ціша,*
*Нібы на свеце толькі мір.*

Паэзія і жанчына… Маці, жонка, дачка, настаўніца, грамадзянка... А яшчэ — неабыякавы чалавек, захоплены высокімі пачуццямі кахання і любові, які нясе ў сэрцы жыццярадаснае святло вершаваных радкоў.

**Марыя РУДОВІЧ**

Братэрства

# Нечытанне спрыяе дэградацыі

**Міхаіл Слабашпіцкі — украінскі пісьменнік. Выдавец. Дырэктар выдавецтва «Ярославаў Вал». Аўтар кніг «Паэт з пекла», «З голасу нашай Кліа», «Украінскія мецэнаты», «Нікіфар Драўняк з Крыніцы», «Украінец, які адмовіўся быць бедным. Пётр Яцык», «Не згублены ўкраінскі чалавек», «Марыя Башкірцава» (раман перакладзены і выдадзены на рускай і французскай мовах), «Што запісана ў кнігу жыцця. Міхаіл Кацюбінскі ды іншыя». Па-беларуску ў Мінску выдадзена кніга казак М. Слабашпіцкага «Ці далёка да Афрыкі?». Міхаіл Слабашпіцкі — сённяшні суразмоўца карэспандэнта «ЛіМа».**



Фота Наталлі Аляксандравай

**— Украінская літаратура… Як яна развіваецца сёння?**

— Яшчэ раз пераконваюся ў тым, што для паўнацэннага мастацкага развіцця вырашальнае значэнне мае сама атмасфера дэмакратычнага грамадства. Скасаванне інстытута цэнзуры, адсутнасць усялякіх «адказных за літаратуру» наглядчыкаў дабратворна адбілася на літаратурным працэсе. Сёння ніхто не намагаецца заганяць прыгожае пісьменства ў пракрустава ложа сацыялістычнага рэалізму. Сёння літаратура — як рака, што вольна плыве паміж сваіх берагоў. Нават пры беглым поглядзе заўважна тэматычнае багацце сучаснай літаратуры, з якім сёння здабыткі аднаго года роўныя літаратуры мінулых дзесяцігоддзяў. Непараўнальная і багатая стылёвая палітра, шчодрая на ўсялякія мастацкія эксперыменты…

Нацыянальная літаратура мае вялікія рэзервы чытачоў на заўтра.

**— Найболей яркія творы… Ці вылучаецца нешта ў агульным шэрагу?**

— Творы-падзеі ва Украіне — гэта раманы «Чорны воран» Васіля Шкляра, «Музей пакінутых сакрэтаў» Аксаны Забужка, раманная трылогія «Час смертахрыстаў», «Час вялікай гульні», «Час тырана» Юрыя Шчарбака, некалькі паэтычных і празаічных кніг Сергія Ждана, «Паляванне на птахаў нябесных» Тэадозіі Зарыўной, «Кніга забыцця» Васіля Сліпчука, «Вершы з вайны» Барыса Гуменюка… Гэта толькі тое, што згадалася адразу...

Раманы Міраслава Дачынца, Рамана Іванчука, Уладзіміра Ліса, Івана Корсака, Надзеі Гуменюк, Паўла Кралюка, Галіны Тарасюк — усе гэтыя творы, і не толькі гэтыя, маюць у сабе прыкметы нашых дзён, дапамагаюць іх зразумець, а таксама нясуць у сабе моцную эстэтычную энергію і вызначаючца той стылістычнай яскравасцю, што і адрознівае сапраўдную літаратуру.

Што да чытачоў, то хацелася б — і ўсе гэтыя творы заслугоўваюць таго — значна болей актыўнай на іх рэакцыі, дакладных расповедаў пра іхнія рэцэпцыі. Вымагаюць яны, здабыткі, і глыбейшай крытычнай размовы. Бо наша крытыка збольшага абмяжоўваецца не дужа актыўным паточным рэцэнзаваннем. Цалкам зніклі панарамныя агляды, праблемныя артыкулы, літаратурныя партрэты. Квітнеюць рэкламныя публікацыі, якія да крытыкі не маюць нават сімвалічных адносін.

**— Так, ці не ва ўсіх нацыянальных літаратурах гавораць пра заняпад літаратурнай крытыкі…**

— Крытыка перажывае зацяжны перыяд свайго крызісу. Найболей актыўныя ў ранейшыя часы крытыкі эміgravалі з сваёй дзялянкі альбо ў літаратуразнаўства, альбо ў паэзію і прозу. Прычына вельмі трывіяльная і знаходзіцца на паверхні — крытыкі за сваю працу не атрымліваюць ганарараў, а задарма ніхто не хоча пісаць.

**— Вы як выдавец яшчэ разлічваеце на поспехі друкаваных кніг?**

— Прапануючы да выдання тую ці іншую кнігу, канечне ж, думаеш, ці можа яна мець поспех. І, між іншым, часта ўгадваеш, калі ўлічваеш, пры прыняцці рашэння такія фактары: рэпутацыю і месца ў «табелі аб рангах» аўтара, публічную прысутнасць аўтара, прыхільнасць да яго з боку СМІ, а таксама сюжэт твора і літаратурную яго паўнавартаснасць. Усё гэта сапраўды мае важнае значэнне тады, калі кніга паўстае на вітрыне, паліцы ў кнігарні.

**— Якімі, дарэчы, тыражамі выдаецца зараз проза? А паэзія?**

— Як правіла, празаічныя кніжкі выходзяць накладам адна тысяча асобнікаў. У некага (але такіх небагата) гэта стартавы тыраж. Пасля яго рэалізацыі наклад дадрукоўваецца. У некага ён сягае да 5 — 7 тысяч. А ўжо 15 — гэта на ўзроўні рэкорда нашых дзён. Паэзія мае зусім дробныя тыражы: 100, 200, 300 асобнікаў. Бывае (але гэта адзінкавыя выпадкі), тысяча ці дзве. Паэзія катастрафічна страціла свайго чытача. І гэта ў той час, калі мы маем некалькі дзясяткаў паэтаў, якія з усімі на тое падставамі могуць прэтэндаваць на Нобелеўскую прэмію. Наша паэзія мацнейшая за прозу (разумею, што такое параўнанне не надта карэктнае, аднак у паэзіі якраз маем сёння найболей яскравых творчых індывідуальнасцей), але для свету яна застаецца практычна невядомай. І перакладаюць яе ў Еўропе мала, ды і перакласці паэзію неверагодна складана. Гісторыя паэтычных перакладаў — гісторыя страт, збяднення і спрашчэння арыгінала ў яго іншамоўных адлюстраваннях.

**— Наколькі складана працаваць кіеўскім, украінскім выдаўцам у тых умовах, у якіх цяпер знаходзіцца Украіна? Ці захавалася ў вас сістэма кнігараспаўсюджвання, кнігагандлю?**

— Рэалізацыя кніжнай прадукцыі зараз дужа складаная. Па-першае, даўно і следу не засталося ад сістэмы дзяржаўнага кнігагандлю. Гэта было для выдаўцоў сапраўдным шчасцем. Разгалінаваная сетка кнігарняў… Ад сталіцы і аж но да кожнага райцэнтра. Памятаю, што нават пры 100-тысячных накладах добрых кніг не хапала. Цяпер ужо кніжкі так не купляюць. Сёння хатняя бібліятэка ва ўкраінцаў — рэдкасць. І не толькі таму, што ў нас данельга нізка ўпаў узровень жыцця і ў людзей элементарна нестае грошай. Яшчэ адна з прычын — ва Украіне сталі нашмат меней чытаць, бо столькі людзей проста абыходзяцца без кнігі. Яна перастала быць актыўнай дзейнай асобай у іх жыцці. Нечытанне спрыяе дэградацыі і маргіналізацыі чалавека. На жаль, усё гэта назіраецца ва Украіне.

У нас разоў у сорак зменшылася колькасць кнігарняў. Ды і тыя, што яшчэ зусім нядаўна працавалі, нярэдка банкрутуюць. Адсюль і прычыны мізэрных тыражоў нашых выданняў.

**— Наколькі ўважлівыя сучасныя ўкраінскія пісьменнікі і кнігавыдаўцы да сучаснага перакладу?**

— Мастацкі пераклад быў яскравым феноменам украінскай культуры пачынаючы з шасцідзясятых гадоў і заканчваючы васьмідзясятымі. Тады ў перакладчыцкай справе было шмат таленавітых імёнаў: Мікола Лукаш, Максім Рыльскі, Грыгорый Кочур, Барыс Тэн, Васіль Місык, Яўген Драбязка, Леанід Первамайскі, Юрый Лісняк, Расціслаў Дацэнка… Тады з'явіўся ў бліскучых украінскіх інтэрпрэтацыях цэлы корпус твораў сусветнай класікі і найрэзананснейшыя творы замежнай літаратуры другой паловы XX стагоддзя. Зрэшты, гэта — дужа цікавая тэма, што вымагае спецыяльнай размовы.

Сённяшні стан нашага перакладніцтва — гэта прыкры спад, бледны цень таго, чым мы маглі раней паўнапраўна ганарыцца. Між іншым, тады ў нас рэгулярна друкаваліся творы беларусаў Максіма Танка і Янкі Брыля, Івана Шамякіна і Васіля Быкава, Івана Мележа і Аркадзя Куляшова, Івана Пташнікава і Івана Чыгрынава, Генадзя Бураўкіна і Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна і Алеся Адамовіча. Без усялякага перабольшвання можна сказаць, што на ўкраінскай мове ёсць цэлая бібліятэка твораў беларускай літаратуры. Але гэта ўсё — здабыткі мінулага. Зараз мы сапраўды дрэнна ведаем адзін аднаго сённяшніх. Толькі гады ў рады, дзякуючы асабістым кантактам аўтараў, з'яўляецца ва Украіне пераклад беларускай кніжкі, і адпаведна — у Беларусі ўкраінскай. Нам трэба наладжваць творчыя кантакты. Гэта — не проста цікава. Гэта — дабратворны ўзаемаўплыў і ўзаемаўзбагачэнне літаратур.

**— Калі б якое з беларускіх кніжных выдавецтваў пачало працу па сістэмнай прэзентацыі сучаснай украінскай літаратуры па-беларуску, то з чаго паралілі б пачаць?**

— Звычайна, з вяршынных здабыткаў нашай літаратуры, павязаных з імёнамі Ліны Кастэнка, Дзмітра Паўлычкі, Юрыя Шчарбака, Валерыя Шаўчука, Паўла Моўчана… Паверце, гэты пералік можа быць дужа доўгім.

Сённяшняя сітуацыя з нашымі творчымі кантактамі абсалютна ненармальная. І ад нас залежыць, якой яна будзе надалей.

**Гутарыў Павел АЛЬСОВЫ, Кіеў — Мінск**

## Помнік беларускаму партызану

У Алматы ўсталяваны помнік казахскаму пісьменніку і беларускаму партызану Адзію Шарыпаву.

У краіне, якая з'яўляецца сённястратэгічным партнёрам Беларусі па еўразійскім будаўніцтве, адкрыты помнік пісьменніку і вучонаму Адзію Шарыпаву. Чалавек, якога і цяпер памятаюць у Беларусі і Казахстане як легендарнага народнага мсціўца, партызана Вялікай Айчыннай вайны, які пакінуў адметны след у гісторыі Казахстана і ўвогуле Савецкага Саюза. У розныя гады ён займаў пасады міністра асветы і міністра замежных спраў Казахскай ССР, быў намеснікам старшыні ўрада Казахскай ССР, першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Казахстана, дырэктарам Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава Акадэміі навук Казахскай ССР.

Сёння помнік велічна ўзвышаецца на вуліцы, якая носіць імя Адзія Шарыпава. Гэтую акалічнасць падкрэсліў і ўдзельнік яго адкрыцця саветнік пасольства Беларусі ў Казахстане Сяргей Жартун і іншыя грамадскія дзеячы, пісьменнікі, якія прыйшлі ўзгадаць літаратара, чый уклад у беларуска-казахстанскае літаратурнае, культурнае пабрацімства неацэнна.

— Мне асабліва прыемна, — заўважыла ўдава пісьменніка Клара Жагіпараўна, — што само ўсталяванне помніка з'яўляецца актам супольных памкненняў і Казахстана, і Беларусі, і Расіі — краін, дзе Адзія Шарыпава ведаюць і помняць.

Сваімі развагамі пра велічны талент казахскага пісьменніка і вучонага на адкрыцці помнікі падзяліліся кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева, якая з'яўляецца даследчыкам беларуска-казахскіх літаратурных сувязей і неаднойчы пісала пра повязь Адзія Шарыпава з Беларуссю, і наша зямлячка паэтэса Любоў Шашкова, якая многія гады жыве ды працуе ў Казахстане. Падчас святочнай імпрэзы былі агучаны і прывітанні з Беларусі, якія казахскім сябрам накіравалі Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда» ды Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.



Фота Наталлі Аляксандравай.

**Максім ГАЛЫНКА**

*Унікальны праект*

# Рэтраспекцыя Мінска




*Від на палац графа Чапскага з боку Скобелеўскай (Чырвонаармейскай) вуліцы ў пачатку XX ст.*

**Серыя кніг вядомага філакартыста і краязнаўца Уладзіміра Ліхадзедава «У пошуках страчанага» папоўнілася новым выданнем. У Выдавецкім доме «Звязда» пры спрыянні рэдакцыі газеты «СБ — Беларусь сегодня» пабачыла свет кніга «Мінск: падарожжа ў часе» на беларускай, англійскай і рускай мовах.**

Сёння ўсё больш і больш папулярнымі становяцца экскурсіі, што дазваляюць не толькі пазнаёміцца з сучасным абліччам пэўнай мясцовасці, але і зазірнуць у яе мінулае. Для большай «дакладнасці» і праўдзівасці аповеду гіды часта апранаюць касцюмы розных часоў, запрашаюць музыкаў у сярэднявечных строях, рыцараў у даспехах і са зброяй. Сапраўды, такое рашэнне працуе на карысць экскурсіі, і яе ўдзельнікі атрымліваюць не проста сухія звесткі пра размяшчэнне палацаў, храмаў, але маюць магчымасць пабачыць гісторыю на свае вочы.

Думаецца, не будзе памылкай назваць і кнігу «Мінск: падарожжа ў часе» своеасаблівай экскурсіяй па нашай сталіцы. Тут аўтар тэкстаў Павел Якубовіч разам з калекцыянерам Уладзімірам Ліхадзедавым і навуковым кансультантам Уладзімірам Дзянісавым (дарэчы, вядомым краязнаўцам і экскурсаводам) выступаюць у якасці гідаў, а чытачы становяцца цікаўнымі турыстамі. І не так важна, прыжывы ты ў Мінску ўсё жыццё ці прыехаў сюды ўпершыню, — разглядаючы фотаздымкі даўніх часоў і сучаснасці, назіраючы за зменамі, што адбываліся з горадам на працягу стагоддзяў, усё роўна адчуваеш сябе госцем. Выданне пабудавана такім чынам, што побач з фотаздымкамі вуліц, плошчаў і будынкаў Мінска канца XIX і пачатку XX стагоддзя, гадоў Вялікай Айчыннай вайны стаяць фота тых жа мясцін у дні цяперашнія. Гартаючы старонкі кнігі, нібыта апынаешся ў машыне часу, што пераносіць у мінуўшчыну: на тваіх вачах горад змяняецца, расце, адбудоўваецца пасля разбурэння ў перыяд вайны.




У прадмове да выдання Уладзімір Ліхадзедаў адзначае: «Ці ж даравальна не ведаць, дзе цешыў вока нашых прадзедаў стары храм у Верхнім горадзе, дзе сінела між зялёнымі берагамі Няміга, дзе шумеў срэбным лісцем таполяў Губернатарскі сад, дзе ззяла агнямі і грукатала конкай Захар'еўская вуліца? І няўжо не пашкадуем, што не зможам перадаць дзецям і ўнукам старыя паданні і легенды?..» І сапраўды, аўтары і укладальнікі не проста паказваюць чытачам фотаздымкі старога і новага Мінска, але і распавядаюць гісторыі пра пабудову і змены, што адбываліся ў горадзе.

Знаёмства з кожным горадам зазвычай пачынаецца з вакзала. Таму і кніга «Мінск: падарожжа ў часе» спачатку пераносіць нас на сталічны вакзал, дакладней… вакзалы. Аўтары распавядаюць, што сучасны чыгуначны вакзал стаіць на месцы старога Віленскага, які быў пабудаваны ў 1874 годзе на Лібава-Роменскай чыгунцы. Спачатку ён быў драўляным, а ў 1890 годзе на яго месцы змуравалі новы. У канцы 1920-х — 1930-я гады будынак стаў двухпавярховым, у 1940 годзе ён перажыў рэканструкцыю, разбурэнне — у гады Вялікай Айчыннай вайны. Архітэктурны ансамбль сучаснай Прывакзальнай плошчы сфарміраваўся ў 1948 — 1956 гадах, а ў 1991 годзе стары будынак Віленскага вакзала быў разбураны і на яго месцы пабудаваны новы. Дарэчы, Віленскі вакзал быў другім у горадзе. Першым пабудавалі Брэсцкі (знаходзіўся ў раёне сённяшняга Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў), ён прыняў пасажыраў Маскоўска-Брэсцкай чыгункі ў 1871 годзе і прастаяў да 1928 года.

Шпацыр па Мінску працягваецца на плошчы Незалежнасці. З кароткага тэксту пра гісторыю гэтай часткі горада мы даведваемся, што па тэрыторыі сучаснай плошчы раней праходзіла вуліца Базарная, калісьці гэтыя месцы былі ўжо за мяжой горада і тут існаваў рынак. У пачатку XX стагоддзя гэтая частка горада, разам з вуліцай Захар'еўскай (сёння праспект Незалежнасці) з'явілася адной з самых прэстыжных. Тут былі пабудаваныя двух- і чатырохпавярховыя жылыя дамы з арыгінальнай архітэктурнай канструкцыяй, дзе сяліліся фінансісты, высокія чыноўнікі, арыстакраты і нават гарадскія віцэ-губернатары. Чытач мае магчымасць пабачыць рэдкія архіўныя здымкі плошчы Незалежнасці, зробленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, а таксама ўнікальныя сувенірныя паштоўкі з праектам касцёла Святых Сымона і Алены, выпушчаныя ў пачатку XX стагоддзя. Дарэчы, будаўніцтва гэтага храма было скончана ў 1910 годзе. Фотаздымкі распавядаюць, што на месцы сучаснай плошчы Мяснікова калісьці стаяла царква ў імя Казанскай Божай Маці, а ў канцы XIX стагоддзя тут размяшчалася і капліца ў памяць цудоўнага выратавання імператарскай сям'і.

Далей расповед аўтараў нас вядзе ў цэнтр старажытнага Мінска — на сучасную плошчу Свабоды. Яна была скансруявана пасля вялікага пажару 1547 года, што знішчыў амаль усю забудову сярэднявечнага горада. Адметна, што з таго часу Мінск пачалі будаваць паноў паводле адзінага генеральнага плана ў адпаведнасці з горадабудаўнічымі прынцыпамі еўрапейскіх гарадоў. Так, у цэнтры размясцілася рынкавая плошча (Высокі рынак), на якую выходзілі асноўныя гарадскія вуліцы. З цягам стагоддзяў забудова плошчы ўзбагачалася храмамі і кляштарамі, драўлянымі і мураванымі жылымі дамамі ў стылі Рэнесансу і барока, тут былі рэзідэнцыі арыстакратаў, у тым ліку палац Радзівілаў. А ў канцы XVI стагоддзя ў цэнтры плошчы былі пабудаваныя ратуша з гадзіннікам і гасціны двор. На жаль, не ўсе старажытныя будынкі па плошчы Свабоды захаваліся, а многія перажылі значныя змены. Так, толькі на фотаздымках мы можам пабачыць Петрапаўлаўскі кафедральны сабор, гасцініцу «Еўропа», якая з трохпавярховай з цягам часу ператварылася ў шасціпавярховую, а касцёл каталіцкага кляштара бернардзінак стаў праваслаўным кафедральным саборам Святога Духа.

Падарожжа працягваецца на сучаснай Кастрычніцкай плошчы, якая пасля Вялікай Айчыннай вайны называлася Цэнтральнай. Аўтары адзначаюць, што недалёка ад плошчы, там, дзе сёння знаходзіцца будынак Савета Рэспублікі, на вуліцы Чырвонаармейскай, у пачатку XX стагоддзя стаяў палац мінскага губернатара графа Чапскага (яго можна пабачыць на фотаздымку). Тут жа можна прасачыць эвалюцыю знешняга выгляду Мінскага гарадскога тэатра (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), пабачыць капліцу Святога Аляксандра Неўскага і фантан са скульптурай хлопчыка з лебедзем у Аляксандраўскім скверы (сёння Цэнтральны сквер).

Адметна, што фотаздымкі, змешчаныя ў кнізе «Мінск: падарожжа ў часе» паказваюць не толькі будынкі. На іх мы бачым некаторыя моманты з жыцця гарадскіх жыхароў у пачатку і сярэдзіне XX стагоддзя. Вось па вуліцы шпацыруюць святочна апранутыя дамы з парасонамі, вусаты афіцэр пазіруе фатографу ля фантана, на лаўцы чакаюць кліентаў чысцільшчыкі абутку, а заклапочаныя фінансісты спяшаюцца па справах. Бачым мы і коней, запрэжаных у вытанчаныя брычкі, і першыя аўтамабілі на вуліцах горада…

Нястомныя гіды праводзяць нас па праспекце Незалежнасці (раней вуліца Захар'еўская), вуліцах Леніна (раней Губернатарская) і К. Маркса (раней Лошыцкая, Базарная), мы зазірнём у Дом-музей Першага з'езда РСДРП, пабачым, як аднаўляўся будынак Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, як адбудоўваўся горад пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Партрэт нашай сталіцы ўвесь час змяняецца. З'яўляюцца новыя будынкі, а старыя — аднаўляюцца ці знікаюць. І, як справядліва адзначаюць аўтары, каб прасачыць змены горада, цікаўнаму даследчыку трэба правесці шмат часу ў архівах, прагледзець мноства дакументаў, паштовак і фотаздымкаў. Але зараз з'явіўся больш просты шлях — можна пагартаць кнігу «Мінск: падарожжа ў часе», гэтае выданне захавае для нашчадкаў згадкі пра мінуўшчыну горада і нашы дні, а таксама дасць магчымасць пазнаёміцца з імі шырокаму колу чытачоў-сучаснікаў. Адметна, што кніга змяшчае паралельныя тэксты на беларускай, рускай і англійскай мовах, значыць яна стане выдатным падарункам гасцям краіны і замежным сябрам. Застаецца спадзявацца, што калекцыі фотаздымкаў і паштовак Уладзіміра Ліхадзедава будуць працягваць адкрывацца і для жыхароў іншых гарадоў Беларусі, а такія рэтраспектыўныя даведнікі-спадарожнікі з'явяцца і ў Гродна, Брэста, Віцебска…

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава
з кнігі «Мінск: падарожжа ў часе»**



*Від на былы касцёл кляштара бернардзінак, цяпер — праваслаўны кафедральны сабор Святога Духа, 1918 г.*




# Шчучын: галерэя творцаў

**Літаратурнае жыццё краю, які сёлета прымае свята пісьменства, бярэ вытокі з мясцовага фальклору. Народныя традыцыі доўгія стагоддзі служылі галоўным сродкам выяўлення шматграннага духоўнага жыцця народа. Тут, на тэрыторыі сучаснай Шчучыншчыны, нараджаліся і жылі вядомыя паэты, некаторых з іх сёння называюць асветнікамі беларускай зямлі.**

## Гвідон Ждановіч (н. 1930)

Родам з Магілёўшчыны, цяпер жыве ў Шчучыне. Працаваў на прававой ніве, вершы піша са студэнцкіх гадоў. У 2006 годзе выдаў зборнік «Святло душы», у які ўвайшлі творы рознай тэматыкі, збольшага прыродныя замалёўкі і роздум аб пражытым і сутнасці жыцця, успаміны пра вайну.

## Уладзімір Васько (н. 1937)

Журналіст і паэт. Нарадзіўся ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Сябра Беларускага саюза журналістаў з 1973 года, Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Закончыў аддзяленне рускай мовы і літаратуры філфака Гродзенскага педінстытута. Працаваў у школах (настаўнікам, дырэктарам сярэдняй школы рабочай моладзі, намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце), а затым быў запрошаны на працу ў Дзятлаўскую газету «Перамога», яшчэ пазней перайшоў у рэдакцыю Лідскай аб'яднанай газеты «Уперад». Вершы друкуе з 1956 года. Выдаў зборнікі лірыкі «Прасветленасць», «На схілах берагоў».

### Карані

*З берага пясчанага карэнне*
*Цягнецца, як жылы, да вады.*
*Стану перад ім я на калені.*
*Адганю сівы туман нуды.*

*Думкі так ці змогуць развітацца,*
*Каб прашыць, бы пласт зямлі, прастор?*
*Забаўкай яны для падшываца,*
*Для мяне — найпрыгажэйшы ўзор.*

*Усё ў іх натуральна, непадробна,*
*Кроў з незатухаючых агнёў.*
*Заначую сёння ў лесе родным,*
*Каб паслухаць сэрца каранёў.*

## Іван Пяшко (н. 1941)

Вёска Ляшчыцы, Скідзельская сярэдняя школа, тэхнічнае вучылішча ў Гродне... Працаваў электрыкам, а пасля заканчэння гістарычнага факультэта Гродзенскага педінстытута настаўнічаў у Шчучынскім раёне, быў на партыйнай рабоце. Скончыў Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве. З 1984 года працаваў намеснікам рэдактара Шчучынскай раённай газеты. Аўтар кніг прозы «Чырвоная клубніка», «Марго з Казарэзаў», «Сцэнарый з сямідзясятых». У 1993 годзе ў часопісе «Маладосць» апублікаваная аповесць «Дзе логіка?». Асобныя творы ўвайшлі ў калектыўныя зборнікі прозы «Радня» (на ўкраінскай мове), «Вожык смяецца». Выдаў зборнік гумарэсак «Валуны». Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1998 года. Стыль Івана Пяшко просты і лаканічны. Часам аўтар звяртаецца да алегарычных вобразаў, вялікую ўвагу надае дэталям. У жыцці пісьменніка было шмат страт: не вярнуўся з вайны бацька, у Сірыі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку загінуў брат Валянцін, пахаваў сына. Ён востра адчувае боль іншых людзей, і гэта заўважна ў творах. Многія з апавяданняў — аўтабіяграфічныя.

## Алена Руцкая (н. 1950)

З вёскі Дзякаўцы Шчучынскага раёна. Паэтэса і педагог, заслужаная настаўніца Беларусі, выдатнік адукацыі. Навучаючыся на філалагічным факультэце БДУ, удзельнічала ў рабоце літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Працавала настаўніцай, старшым выкладчыкам, а цяпер — дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Рэцэнзіі, нарысы на маральна-педагагічныя тэмы, артыкулы пра выкладанне беларускай мовы і літаратуры ў школе друкуе з 1977 года. Суаўтар калектыўнага зборніка лірыкі «Сцяжынка», выдала кнігі паэзіі «Надзея» і «Роздум».

### Запавет Цёткі (Алаізы Пашкевіч)

*«Як згіну — не шкадуйце…»*
*Самотны запавет.*
*Не маці — толькі Цётка.*
*Слабейшы болю след…*
*«Як згіну — не шкадуйце…»*
*Была і адышла.*
*Заступніцай вам Цётка —*
*Шпітальная сястра.*

*«Як згіну — не шкадуйце…»*
*Жаль сілы не скране.*
*Вы «кветкай перуновай»*
*Запомніце мяне.*

## Ануфрый Петрашкевіч (1793 — 1863)



Знакаміты паэт канца XVIII стагоддзя нарадзіўся ў Шчучыне ў сям'і небагатага шляхціца. Скончыў павятовую піярскую школу, працаваў гувернёрам. Сярод яго выхаванцаў быў Ігнат Дамейка — будучы нацыянальны герой Чылі, вучоны-мінеролаг, заснавальнік першага ўніверсітэта ў Сант'яга. А. Петрашкевіч разам з І. Дамейка прадоўжылі адукацыю ў Віленскім універсітэце на факультэце прыродазнаўчых і фізічных навук. У 1816 годзе А. Петрашкевіч атрымаў ступень кандыдата філасофіі, а таксама разам з Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам і Тамашом Занам стаў адным са стваральнікаў тайнага таварыства філаматаў. У паэтычнай творчасці А. Петрашкевіч выкарыстоўваў матывы і вобразы вуснай паэзіі беларускага народа, яго звычаі і вераванні. Кастусь Цвірка лічыў паэта адным з першаадкрывальнікаў беларускага фальклору. Падчас следства па справе філаматаў паэту ўдалося пазбегнуць арышту. Гэта дало магчымасць захаваць усе матэрыялы таварыства філаматаў, іх паэтычныя творы. Дзякуючы А. Петрашкевічу мы ведаем творы А. Міцкевіча, Т. Зана і Я. Чачота, у тым ліку напісаныя на беларускай мове.

### Купала

Ідылія

*…За вёскай пагоркаў вунь доўжацца цені,*
*І зырка чырвонага сонца прамене*
*Залоціць аблокі. Мультанак гук чысты*
*Вяртаецца рэхам з гаёў цёмналістых.*
*У бляску зарніцы на ўзгорак пакаты*
*З вянкамі збягаюцца з вёсак дзяўчаты.*
*Пры стосе галля, каля блізкага гаю,*
*Сівенькі дзядок жар святы зберагае.*
*Жазло яго зёлкамі ўвіта. Агню ён*
*Ад ранку ахвяры старанна рыхтуе.*
*— На кошык, Палахна, збан гэты, падпалы.*
*Як зоймецца стос, заводзь песню Купалы.*
*Выконвае спрытна загады дзяўчына.*
*Сама — нібы ружа ці ў лесе шыпшына.*
*Нявінны румянец на шчоках яснее —*
*Нібы той падпал,што ў руцэ палымнее.*
*Во слуп загарэўся над ломам, на стосе!*
*Палахна ў агонь пук зялёных калосся*
*Кідае і песню Купалы заводзіць,*
*З ёй хлопцы й дзяўчаты спяваюць у згодзе…*

### Гістарычная даведка

Даследчыкі мяркуюць, што поўдзень Шчучыншчыны быў заселены спадкаемцамі старажытных балцкіх плямён, продкаў сучасных літоўцаў і латышоў; на поўначы месціліся продкі славян; на тэрыторыі Верхняга Панямоння жылі некалі захопленыя ў плен славянамі мазаўшане. З цягам часу насельніцтва рэгіёна паступова набывала этнічную аднароднасць, але адметнасць культур захоўвалася. Дый гістарычны шлях наклаў адбітак на культуру краю: у канцы XIII стагоддзя Шчучыншчына ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, пасля аб'яднання ВКЛ з Польскім каралеўствам — у склад Рэчы Паспалітай, у выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай — у склад Расійскай імперыі.

Валодалі шчучынскімі землямі ў розныя часы феадалы, князі, каралі, цары. Свае ўладанні тут мелі праваслаўная і ўніяцкая царквы, а з пачатку XVIII стагоддзя ў мястэчку Шчучын з'явіліся манахі каталіцкага ордэна піяраў, якія заснавалі тут калегіум. З яго дзейнасцю звязаны росквіт асветы і навукі ў Шчучыне.

Першым уладальнікам горада лічыцца троцкі ваявода Пётр Лелюш. Уладальнікамі Шчучына былі таксама Кучукі, Кішкі, на працягу 40 гадоў — Радзівілы. Фарміраванне ж ўласна мястэчка Шчучын пачалося ў 1540-я гады. пры Юндзілах, Давойнах. З пачатку XVII ст. тут уладарылі Лімонты — род з Фларэнцыі, які з'явіўся на тэрыторыі ВКЛ разам з Бонай Сфорца, жонкай польскага караля Жыгімонта Старога. З 1680 па 1750 год. уласнікамі Шчучына былі Юзафовічы-Глябіцкія. Менавіта яны заснавалі кляштар піяраў і «Абшчыну сясцёр міласэрнасці». Мястэчка ператварылася ў рэлігійны і культурна-асветніцкі цэнтр Панямоння: тут дзейнічалі піярская семінарыя і вышэйшая школа, багатая бібліятэка, шпіталь і школа сясцёр міласэрнасці. З ініцыятывы рэктара школы піяраў была створаная адна з першых на тэрыторыі Беларусі аптэка.

## Рычард Бялячыц (н. 1953)

Паэт і педагог. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Стаўбуры на Астравеччыне. Скончыў сярэднюю школу ў вёсцы Варняны, літаратурна-музычнае аддзяленне Мінскага педінстытута імя М.Танка. Быў настаўнікам, пэўны час — намеснікам дырэктара, інспектарам аддзела народнай адукацыі ў Астраўцы. Працаваў у рэдакцыі «Астравецкай праўды». З канца 1980-х жыве на Шчучыншчыне, працуе ў сферы адукацыі. Сёння Р. Бялячыц — стылістычны рэдактар раённай газеты «Дзянніца».

Друкуецца як паэт з 1979 года («Маладосць», «Полымя», «ЛіМ»), з'яўляецца суаўтарам паэтычнага зборніка «Лагодны промень раніцы». Выдаў зборнікі вершаў «Сакавіцкае крыло», «Прасветлінка», «Міг выратавання», «Вочы малітвы», «Святлом і ценем», «Помню, што жыву», тапанімічныя аповеды «На радзіме Котры», «Котранскі нераст».

Першая кніга Р. Бялячыца выйшла, калі яму было за трыццаць. Паэзія аўтара вызначаецца скіраванасцю да рацыянальнага асэнсавання рэчаіснасці, прыгажосцю вобразаў, прычым вобразы гэтыя не заўсёды проста раскрываюцца, і творы яго разлічаныя на ўдумлівага чытача. У паэта ёсць свае настаўнікі — Юрка Голуб, Валянціна Коўтун.

Тэматыка вершаў вядомая: каханне, ухваленне прыгажосці роднага краю, роздум пра сэнс жыцця. Звяртаецца аўтар да славутых землякоў (прысвяціў вершы Максіму Багдановічу, Кастусю Каліноўскаму, Людвіку Нарбуту, Алаізе Пашкевіч). Аўтар падкрэслівае непадзельную сувязь між мінулым і будучыняй.

Рыхтуецца да выхаду новы зборнік паэзіі «Споведзь накцюрна», які тэматычна і настраёва працягне «Вочы малітвы». Яшчэ адна грань творчасці Р. Бялячыца — публіцыстыка.

### Твае сняжынкі

*Затулілася журба*
*Ў ціхім голлі.*
*Першы снег упадабаў*
*Стрэхі, поле.*

*Як жа вызналі з вышынь*
*Чынам нейкім*
*Дзве сняжынкі шлях адзін —*
*Вам на вейкі?*

*Спадабаліся яны*
*Гаспадыні.*
*Я б таксама да вясны*
*Іх пакінуў.*

## Валянцін Блакіт (1938 — 2007)



Празаік, публіцыст, паэт, колішні галоўны рэдактар часопіса «Вожык». Валянцін Блакіт (сапраўднае імя Болтач Валянцін Уладзіміравіч) нарадзіўся ў вёсцы Вострава Шчучынскага раёна. Скончыў сямігодку ў вёсцы Дуброва, а пасля заканчэння Скідзельскай сярэдняй школы стаў літсупрацоўнікам Шчучынскай раённай газеты «Чырвоны сцяг». Скончыў завочна Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў у шэрагу раённых газет, быў уласным карэспандэнтам «Гродзенскай праўды». З 1987 года стаў галоўным рэдактарам часопіса «Вожык». Выдаў зборнік гумарыстычных апавяданняў «Вынаходнік». Таксама В. Блакіт — аўтар аповесцей «Час прылёту жураваў», «Шануй імя сваё», «Усмешка фартуны» і іншых, зборнік іх у перакладзе на рускую мову выйшаў у Маскве ў 1985 годзе. Пісьменніка цікавілі ўзаемаадносіны пакаленняў, ён паказваў сваіх герояў у сітуацыі, калі само жыццё ставіць перад чалавекам пытанне: хто ты, з чым ідзеш да людзей, што можаш аддаць ім? Нязменна прыцягвалі ўвагу лёсы неардынарных асоб, іх маральная чысціня, унутраны свет.

*Яго даймаў страх, цвярозая развважлівасць: не зладзіцца ў іх сямейнае жыццё, характар у яе — не для жонкі. Аднак ён адганяў гэтыя думкі, суцяшаючы сябе: прытрэцца, зладзіцца. Тады хацелася толькі аднаго: хутчэй бы адсекчы былое, хутчэй бы ўсё скончылася, як-кольвек уладзілася, хутчэй бы з'явілася хоць якая яснасць… Далей ён загадваць не хацеў. У яго быў толькі адзін сродак, толькі адно выйсце (ва ўсякім разе, іншага ён тады не бачыў) пазбавіцца ад гнятлівага цяжару, які лёг на яго плечы, выбіў з каляіны, давёў да роспачы. Гэтае выйсце было — ажаніцца…*

**(Урывак з аповесці «Вяселле ў Беражках»)**

## Уладзімір Руль (н. 1953)

Таксама родам са Шчучыншчыны, з вёскі Матылі. Пасля мясцовай школы скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, а ў 1992 годзе — Мінскі дзяржаўны педінстытут імя А. М. Горкага. Працаваў інжынерам-электрыкам і настаўнікам гісторыі.

Вершы і артыкулы У. Руля пачынаючы з 2000 года друкуюцца ў мясцовых і рэспубліканскіх выданнях. Ён лаўрэат конкурсу «Серебряные строки», праведзенага газетай «Белорусская нива» ў 2004 годзе. Апрача кнігі «На зорных шалях вечнасці» аўтар падрыхтаваў да выдання паэтычны зборнік «Пра Нарбутаў моўлю я слова».

## Ганна Сцяпанчанка (н. 1957)

Сям'я жыла ў вёсцы Бобра Шчучынскага раёна, але праз год пераехалі ў вёску Ражанка. З адзнакай скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, з адзнакай жа — Мінскі інстытут культуры. З 1977 года працуе ў Астрынскай дзіцячай бібліятэцы. Лаўрэат прэміі імя А. І. Дубко за творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва ў намінацыі «Бібліятэкар года». Калі бібліятэкар — прафесія, то паэзія — яе захапленне, неад'емная частка жыцця. Вершы Г. Сцяпанчанка, пранікнёныя, жаноцкія, друкаваліся на старонках розных газет.

## Галіна Бяляўская (н. 1954)

Мастачка і паэтка нарадзілася ў вёсцы Азярцо Брэсцкай вобласці ў сям'і настаўніка. Скончыла Ваўкавыскае педвучылішча, працавала настаўніцай. У 1980 годзе скончыла Віцебскі педінстытут — мастацка-графічны факультэт. Працавала мастаком-афарміцелем і зноў звярнулася да педагагічнай дзейнасці. З 1983 года — загадчыца мастацкага аддзялення Шчучынскай дзіцячай школы мастацтваў. Творы публікуе ў мясцовым друку, у альманаху «Нябесны знак», суаўтар зборніка «Галасы». З'яўляецца членам літаратурнага аб'яднання «Нябесны знак».

Паэзія Г. Бяляўскай вызначаецца тэматычным багаццем, нясе ў сабе «мікракосм пачуццяў». Часта аўтарка звяртаецца да пейзажнай і грамадзянскай лірыкі, адзін з найбольш папулярных у яе вобразаў — вобраз маці. У асобных творах паэтка выказвае павагу і адданасць Цётцы (пэўны час Г. Бяляўская настаўнічала на радзіме паэткі). Закранаецца і ваенная тэма.

## Вольга Русілка (н. 1959)

Пісьменніца і педагог, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў вёсцы Бершты Шчучынскага раёна ў сям'і інтэлігентаў. Скончыла мясцовую сярэднюю школу і філалагічны факультэт БДУ, удзельнічала ў рабоце студэнцкага літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Віцебску. Скончыла аспірантуру ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі. У Віцебскім педінстытуце Вольга Іванаўна выкладае з 1984 года, з 1992-га — загадчык кафедры беларускай літаратуры. Вершы друкуе з 1974 года. Суаўтар калектыўных зборнікаў «Вёсны», «Шчаслівы дзень», «Квадра», «Дзвіна. Віцебшчына літаратурная». Выдала зборнік «Табе». Друкуе артыкулы па пытаннях сучаснага літаратурнага працэсу і методыкі выкладання беларускай літаратуры ў школе.

Паэзія В. Русілка раскрывае жаночую душу, трапяткую і абаяльную. Паэтэса стала лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча, лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі за кнігу «Сцежка, сцежачка, сцяжынка». Творам, што ўвайшлі ў кнігу, характэрныя рамантычная ўзнёсласць, імкненне лірычнай гераіні да дабрыні, добразычлівае стаўленне да чалавека. Адначасова паэтэса поўная непрымірымасці да чэрствасці, абыякавасці. Яна глыбей пачала асэнсоўваць гістарычны шлях Бацькаўшчыны, а творы набылі эпічную непаспешлівасць і грунтоўнасць. Апошнім часам В. Русілка звярнулася да прозы. Многія яе творы пакладзеныя на музыку.

*А дома — яблыкавы пах*
*І вымыта хвашчом падлога.*
*І на бярозавых плячах*
*Спялее млявая аблога.*

*Ліне апошні летні дождж,*
*Сыпне у мамін твар, гарэза.*
*Запахне сонцам звялы хвошч,*
*Даспелым летам, светлым лесам.*

**Алена ПАСЮТА,**
**малюнкі Алесі Ісы**

## Цётка (1876 — 1916)



Паэтэса-рэвалюцыянерка Алаіза Пашкевіч родам з былога фальварка Пешчын Шчучынскага раёна (у мясцовых гаворках гэтая мясціна называецца Пяшчына). Наладжвала сувязі з сацыял-дэмакратычнымі рабочымі арганізацыямі, удзельнічала ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, пісала вершы. У 1906 годзе ў Жоўкаве (пад Львовам) у друкарні базыльянскага кляштара надрукавала зборнікі рэвалюцыйных вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Шмат зрабіла на ніве асветы як аўтар выдадзеных у 1906 годзе першых кніжак для дзяцей на роднай мове: «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», «Гасцінец для малых дзяцей», «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

### Вам, суседзі

*Вам, суседзі, вам, кумочкі,*
*Беларусы-галубочкі,*
*Пяю з сэрца, падцінайце,*
*Вы грамадай голас дайце.*
*Зложым песню цэлым людам.*
*Выйдзе пекна, стане цудам.*
*Як свет светам яшчэ стаў,*
*Такой песні не слухаў:*
*Восем, дзевяць... і мільён*
*Грудзей зльецца ў адзін тон,*
*Дадуць песню, а ў ёй труд,*
*Доля, жыцце. Ці ж не цуд?*
*Ад вякоў мы, братцы, спалі,*
*А тут разам заспявалі.*



# Каму вучыцца весела?

**Навошта дзецям казкі? Няўжо толькі для забавы? А вось і не! У гэтых чароўных, рамантычных, добрых і прыгодніцкіх гісторыях шмат павучальнага. Скажу так: казкі — гэта куфар са скарбамі для педагагічнай навукі. Многія з апавяданняў могуць даць фору ўсім на свеце зборнікам правілаў добрага тону і годных паводзін. Прапанаваныя ніжэй кнігі захопліваюць не толькі сваім арыгінальным сюжэтам, але і мудрымі падказкамі на ўсе выпадкі жыцця.**

## ЛЕКІ АД ШЭРАСЦІ

Кніга казак Галіны Пшонік «Чарадзейны калейдаскоп», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», — незвычайнае і вельмі карыснае люстэрка. Бачныя ў ім не яркая сукенка ці новая прычоска, а ўласныя учынкі. Хто не марыў зірнуць на сябе збоку? Гісторыі, сабраныя ў зборніку, — прыгодніцкія, але з дыдактычным падтэкстам. Не трэба, узброіўшыся рэменем, тлумачыць дзецям сэнс дрэннага і добрага. Праз казкі яны навучацца назіраць за людзьмі, якія трапляюць у нялёгкія, нават рызыкоўныя абставіны, рабіць правільныя высновы, разважаць і трымацца годна.



Звычайныя здарэнні набываюць у Галіны Пшонік чарадзейную афарбоўку. Хлопчык, які зламаў дзядулева крэсла, а потым надумаў збегчы з месца злачынства, трапляе праз люк у асфальце ў горад пад характэрнай назвай Хлуск. Неспадзяваная вандроўка аказваецца далёка не прыемнай: жыхары вакол не паважаюць адзін аднаго, не выконваюць абяцанняў і хлусяць. Маленькі хітрун бачыць, што ён выглядае не лепш, і яму робіцца сорамна. Але ж ці здолее дзіця выбрацца з месца, дзе няма аўтамабіляў і цягнікоў, а з усяго транспарту — толькі лесвіцы ў неба, па якіх немагчыма ўскарабкацца? Зразумела, у кожнай казкі — добры фінал. Але цікава прасачыць, як героі знаходзяць выйсце, — у іх насамрэч ёсць чаму павучыцца! Асабліва адвазе і вынаходлівасці.

На іншых старонках кнігі ажываюць фарбы, пакрыўджаныя вулічным «мастаком», які пераатварыў іх у хаатычныя літары на новых лавачках, сапсаваўшы выгляд усяго двара. У хлопца нарэшце «расплюшчваюцца вочы», і ён разумее, што вінаваты. Ці зможа ён загладзіць віну?

Шмат у кнізе гаворыцца пра дабрыню. У чароўнай гісторыі пра Надзейку, што прынесла дамоў плюшавую змяю Маню, якая ўмее размаўляць і нават дае карысныя парады, пісьменніца нагадвае: з любой кепскай справы можна зрабіць добрую. Скончыліся лямпачкі ў доме, а да цябе госці прыйдуць праз дзесяць хвілін? Запалі свечкі! Утульная і таямнічая атмасфера гарантаваная. Пасварылася з сяброўкай? Зрабі для яе сюрпрыз. Напрыклад, падары падушку ў выглядзе сонейка, якая сагрэе ў любое надвор'е. Стомленая матуля прыйшла з працы і не хоча размаўляць? Дапамажы ёй, прыгатуй што-небудзь смачнае, прыбярыся ў пакоі. Дзіця знойдзе ў кнізе рашэнні самых розных і, дарэчы, вельмі распаўсюджаных праблем!

Тыповыя для казак матывы і супрацьпастаўленні выкарыстоўваюцца ў выданні даволі арыгінальна. Хітрая мачыха, што ненавідзіць сваю падчарку, у адрозненне ад шматлікіх інтэрпрэтацый гэтага сюжэта, не мучыць яе голадам, не апранае ў лахманы і не выпраўляе ў лес ноччу, а наадварот — закормлівае піражнымі, цукеркамі, песціць і нічога не даручае рабіць. Як вынік: дзіця расце абсалютна непрыстасаваным да жыцця.

«Думкі матэрыяльныя» — каштоўнае правіла пацвярджаецца ў казцы «Чарадзейны калейдаскоп», аднайменнай зборніку. Дзяўчынка зараджаецца негатывам ад расчараванай ва ўсім жанчыны, і свет для яе таксама становіцца шэрым — ад дыктараў у тэлевізары і любімага адзення да кветак на вуліцы і смачных матулiных піражкоў. Можна правесці паралель са знаёмай амаль кожнаму дэпрэсіяй, калі чалавек перастае бачыць добрае, яркае, прыемнае і «патанае» ў змрочных думках. Казка прапаноўвае быць мудрэйшымі і бачыць вакол добрае! Прыкметна, што ў Галіны Пшонік няма ідэальных герояў, прынцэс ці рыцараў. Яе персанажы — цалкам рэальныя, са сваімі недахопамі і вартасцямі, а таму блізкія для разумення ў любым узросце.

## УСМІХАЙЦЕСЯ!

Усе любяць марыць, але дзеці гэтага не саромеюцца, у адрозненне ад дарослых. «Хачу ў Афрыку! І усё тут», — заяўляе шасцігадовае стварэнне, сур'ёзнымі вачыма аглядаючы бацькоў. Што тут зробіш? Можна, для пачатку, прапанаваць фантазёру кнігу казак «Ці далёка да Афрыкі?» Міхайлы Слабашпіцкага, якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Праўда, гаворка ў ёй не толькі пра кракадзілаў, сланоў, тыграў і пантэр, якія жывуць у бязмежных гарачых прасторах, небяспечныя зараснікі і глыбокія вадаёмы. Першае, што прапануе аўтар, — зразумець каштоўнасць сяброўства, сапраўднага, шчырага, калі цябе падтрымліваюць, не пакінуць на самоце.



Разам з героем аповеду, хлопчыкам Слаўкам, маленькія чытачы вучацца дапамагаць слабейшым, з клопатам ставіцца да прыроды, заўважаць тое, што адбываецца навокал.

Слаўка адразу выклікае сімпатыю і павагу. Хлопчык не па гадах разумны і добры, чытаў шмат кніжак, сябруе з жывёламі. Спачатку ён вельмі прывязваецца да каня Каштана, станістага нашчадка тарпанаў, якому ўжо шмат гадоў, перажывае за яго здароўе, корміць з рук і водзіць на прагулкі. Гісторыя гэтага сяброўства кранае не менш, чым фільм пра Хатыка. Потым тата прывозіць Слаўку сапраўднага афрыканскага жако, якога малы вучыць размаўляць, а той адказвае ўдзячнасцю: падтрымлівае хлопчыка падчас хваробы, дорыць добры настрой. Слаўка і верабейку выратоўвае ад зімовых маразоў: бярэ маленькі, ледзь жывы камячок дадому і выходжвае яго, нават корміць з лыжачкі. Іншы падумаў бы: бацькі не дазволяць, усё роўна не выжыве, чым я яго лячыць буду… Тут чалавек (хоць і маленькі) проста бярэ — і робіць. Таму што ведае, што добрыя ўчынкі ніколі не прывядуць да ўскладненняў.

Неспадзявана, вельмі глыбока, нават па-філасофску гучыць у кнізе маналог… дрэва на тратуары, якое сумуе «сярод каменнага грамаддзя будынкаў, снавання машын, тралейбусаў, трамваяў». Гэта не зусім казка, а нешта большае. Куды спяшаюцца людзі, навошта сварацца, нічога не чуюць і не бачаць, акрамя ўласных сумак, кашалькоў і мабільнікаў? Уявіце сабе, нам ёсць чаму павучыцца ў зялёнай істоты, бо яна ўмее атрымліваць асалоду ад кожнага моманту жыцця: слухаць музыку цёплага летняга вечара, усміхацца прахалоднаму ветру… Аўтар здолеў укласці сур'ёзны, «важкі» сэнс у простыя, «лёгкія» сказы, разбавіўшы іх выдатным гумарам.

## ЛЯСНЫЯ ПРЫГОДЫ

Ці ведаеце вы, чаму ваўкі пчол баяцца, а з мядзведзямі сяброўства не водзяць? Навошта вераб'і паасобку селяцца, а буслы, наадварот, лічацца самымі гасціннымі птушкамі? Дзе зязюля шукае сваіх дзетак? І нарэшце: чулі калі-небудзь пра палятуху? Трэба хуценька папаўняць «чамадан» ведаў! Казачную энцыклапедыю лясных жыхароў прапануе Янка Галубовіч у сваёй кнізе «Шчодрая вавёрка», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». У выданні няма «сухіх» класіфікацый ці навуковых звестак, але звяры і птушкі «намаляваныя» аўтарам даволі падрабязна і спазнаюцца праз жыццёвыя сітуацыі, у якія трапляюць. Зразумела, як патрабуе жанр, жывёлы размаўляюць, а іх паводзіны вельмі падобныя да людскіх. Адметнасць кожнай гісторыі ў тым, што яна нагадвае байку: у канцы аповеду змешчаны мудрыя высновы. Таму карысць ад чытання павялічваецца: дзіця вывучае назвы жывёл і птушак, даведваецца, дзе яны жывуць, чым сілкуюцца, як гадуюць малых (неблагая падрыхтоўка да біялогіі), і адначасова — разумеюць, як паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі.



Лясное жыццё ў кнізе кіпіць не горш за гарадское: птушкі ладзяць вячоркі са смачнымі пірагамі, канцэрты на палянках, высцілаюць гнёзды мяккім пухам, кормяць мошкамі і жучкамі сваіх дзетак, вавёркі актыўна запасаюцца на зіму ягадамі, арэхамі і жалудамі. Усё, як быццам, ідзе сваім шэрагам. Але на чым трымаецца ў кнізе жывёльны свет? Як і наш, чалавечы, — на дабрыні. Янка Галубовіч стварае такую атмасферу, нібы сам, асабіста, ведае звяроў, пра якіх гаворыць, нават сябруе з імі. Казкі ўспрымаюцца не як чароўныя прыдумкі. Таму ў гэтыя гісторыі верыш.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Творчы касмадром

**Кожны малюнак Аляксандра Кішчанкі 1960 — 1990-х гадоў — не звычайны накід з натуры, а, як правіла, спроба знайсці найбольш вострае рашэнне мастацкага вобраза. У цэнтры ўвагі чалавек — партрэт, фігура, сюжэтная кампазіцыя. Абапіраючыся на традыцыі еўрапейскага мадэрнізму ў мастацтве ХХ стагоддзя, мастак шукае асабістыя шляхі аўтарскага стылю дзеля вырашэння сучасных задач. У работах творцы — сучаснікі, людзі ад зямлі і тонкія інтэлектуалы, занятыя штодзённымі справамі. Адпавядае героям і навакольнае асяроддзе, у якім гарадскія і сельскія рэаліі набываюць абагульняльную характарыстыку.**

### ГРАФІКА 1960 — 1990-Х ГАДОЎ

Малюнкі майстра пачалі экспанавацца ў 2000-х гадах і сталіся яркай з'явай у сучаснай наватарскай графіцы. У партрэтах уражвае прапрацаванасць як агульнага рашэння, так і дэталяў: ці гэта складка адзення, ці рыса твару... Традыцыя гранёнасці формы, праца з танальнымі кантрастамі, якія Аляксандр Кішчанка пераняў з дасягненняў ранняга перыяду кубізму, давала магчымасць смела трансфармаваць натуральныя формы ў больш структурную і рытмічную супадпарадкаванаць элементаў кампазіцыі.

Адкрыццём мастака стала тэма «Едакі кавуноў», дзе з цёплым гумарам і назіральнасцю аўтар перадае стаўленне сучаснікаў да засваення наватарскіх ідэй як вызваленне з кайданаў натуралізму. У далейшым творца неадназоава звяртаўся да парэзанай на часткі садавіны, падкрэсліваючы гэтым значасць адкрытага ім метаду рассечанасці формы на асобныя плоскасці. З 1980-х гадоў мастака захапляе сувязь рэальнага і сакральнага ў асэнсаванні біблейскіх вобразаў і сюжэтаў: тэма Галгофы, укрыжавання ды інш.

### МАЗАІКІ 1970 — 1980-Х ГАДОЎ

Мастацтва мазаікі было для Аляксандра Міхайлавіча важным манументальным відам творчасці для фарміравання ідэйна-эстэтычнага асяроддзя сучаснага горада. У Мінску на той час пачалі з'яўляцца новыя праявы архітэктурнага канструктывізму. На тарцах шматпавярховых будынкаў, пазбаўленых дэкору, размясціліся мазаічныя кампазіцыі Аляксандра Кішчанкі. Яны добра глядзяцца з розных адлегласцей, ствараюць характэрныя абліччы новых раёнаў сталіцы. Мазаіка дазволіла аўтару адчуць неабмежаваную сувязь мастацтва з вялікай прасторай — як творчы касмадром для запуску эксперыментальных ідэй новай візуальнай культуры.



Мазаіка на будынках мікрараёна Усход насупраць Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Першым і эпахальным мазаічным творам 1970-х гадоў стала работа «Партызаны Беларусі» на фасадзе гасцініцы «Турыст» (Партызанскі праспект сталіцы). Лаканічная і строгая мова малюнка нібы адсякае ўсё другаснае: чатыры суровыя абліччы часу сімвалізуюць беларускі народ у цяжкую гадзіну выпрабаванняў і барацьбы. Яны нібыта акумулююць мужнасць, трываласць, моц перакананняў і прынцыпаў.



Аляксандр Кішчанка.

Лагічным працягам мазаічнага росквіту Мінска стала комплекснае рашэнне чатырох тарцоў шматпавярховых будынкаў пры ўездзе на галоўную магістраль горада з усходу. Сцэны будынкаў, паводле задумы Аляксандра Кішчанкі, ператварыліся ў грандыёзныя пілоны храма гісторыі нашай краіны. Кампазіцыйна яны зроблены ў выглядзе вертыкальна накіраваных пано з рытмічна размешчанымі медальёнамі, акружнасцямі. З адлегласці яны нагадваюць грандыёзны арнаментальны дыван з чатырох частак, але па меры набліжэння кожная з формаў раскрывае сваю сімвалічную шматзначнасць, прысвечаную гораду-воіну, гораду-будаўніку, гораду-навукоўцу і творцу. Белы фон вертыкальных сцэн выразна дапоўнены блакітным, залацістым, бронзавым мазаічным россыпам з кавалачкаў смальты. Гэты твор нагадвае салют у гонар горада змагароў і працаўнікоў. А. Кішчанка даказаў, што сучасны горад, як сярэднявечны храм, можа змяшчаць у сабе вялікую манументальна-мазаічную праграму духоўнага і эстэтычнага выхавання.

### ГАБЕЛЕНЫ 1970 — 1990-Х ГАДОЎ

У сучасных грамадскіх інтэр'ерах тэкстыльныя творы — гэта найчасцей вялікія манументальныя палотны. Эвалюцыя Аляксандра Кішчанкі ў габеленнай творчасці — ад кампазіцыі «Чалавек, які спазнае свет» (1971) да твора «Габелен стагоддзя» (1996). Стыль творцы характарызуецца моцнымі кантраснымі формамі вобразных аповедаў на сацыяльна значныя тэмы. Аўтар здолеў надаць габелену новае ідэйнае значэнне: гераіка, рамантыка, сімвалізм. Дзякуючы гэтаму габелены А. Кішчанкі пазнаюцца з першага погляду. Нацыянальная тэма ў габеленах адыгрывае галоўную ролю: барацьба беларусаў за лепшую долю, іх пакуты, імкненне да новых ідэй, драмы ХХ стагоддзя. У габеленах 1970-х гадоў прагучала тэма змагання за незалежнасць нашай Радзімы, асабліва ў вобразах герояў-партызан. Гісторыя краіны — і ў габелене «Музыка», змешчаным у фае Мінскага музычнага вучылішча: вобраз экспрэса, скіраванага ў будучыню. Работа падобнай тэматыкі ёсць і ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь, дзе кампазіцыйны лад выразна нагадвае арганную



«Габелен стагоддзя», 1996 г.

канструкцыю, якая бясконца спараджае ўрачыстыя і напружаныя гукавобразы. 1990-я гады — чарговы эпахальны пералом у жыцці краіны, таму з'явіліся і габелены новага напрамку: боль Чарнобыля, экалагічныя праблемы. Як ніколі раней, адкрылася ў габеленах сувязь творцы з касмічнай прасторай. Такім чынам А. Кішчанка ў тэкстыльных пасланнях здолеў адлюстраваць самыя важныя этапы гісторыі Беларусі.

**Людміла НАЛІВАЙКА**

# Стагоддзе ў эцюдах

## Да 110-годдзя з дня нараджэння мастака

**Фёдар Дарашэвіч (28.08.1905 — 23.12.1986) увайшоў у гісторыю беларускага жывапісу як майстар пейзажа, партрэта, сюжэтна-тэматычнай карціны. Ураджэнец старажытнага беларускага мястэчка Камянец Брэсцкай вобласці, Фёдар Іванавіч атрымаў мастацкую адукацыю далёка ад родных мясцін: ён выпускнік Омскага мастацкага вучылішча імя М. Урубеля (1925 — 1929) і Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе (1930 — 1938).**



«Пад сінім небам», 1973 г.

У Беларусь мастак з сям'ёй вярнуўся ў 1950 годзе і з таго часу жыў у Мінску. Паплечнік і сябар такіх карыфеяў беларускага мастацтва, як В. Волкаў, А. Бембель, настаўнік вядомых мастакоў І. Белановіча і Б. Казакова. Фёдар Дарашэвіч памёр у 1986 годзе, не атрымаўшы пры жыцці той паўнаты прызнання, якой заслугоўвае яго творчасць. Сёння работы майстра знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея, Брэсцкага краязнаўчага музея, Пермскай карціннай галерэі, у зборах прыватных калекцыянераў.

Пэндзлю творцы належаць эцюды і напрацоўкі да маштабных тэматычных карцін («Удалечыні ад Радзімы», «Эвакуацыя завода»), лірыка-эпічныя пейзажы, прысвечаныя маляўнічай беларускай прыродзе, сюжэты пра мора, напісаныя падчас творчай паездкі мастака ў Калінінград, партрэты рабочых і сялян.



«Камянецкая вежа», 1970 г.

Адлюстроўваючы надзённыя тэмы «сацыялістычнай рэчаіснасці», мастак тонка перадаваў дух часу: і мяцежныя 1930-я гады, і змрочныя 1940-я (у гэты час Ф. Дарашэвіч жыў і працаваў у Пярмі, а з першых дзён вайны быў уключаны ў актыўную агітацыйна-мастацкую дзейнасць), і «адраджэнскі» пасляваенны перыяд, і пераломныя 1980-я... Усе падзеі ХХ стагоддзя ў творчасці Ф. Дарашэвіча не здаюцца замкнёнымі ў сухую, бяздушную фактalogію, а адлюстроўваюць глыбокі драматызм і шчырасць творчага ўвасаблення аўтара, незалежна ад абранай тэхнікі і жанру.



**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Шлях да ведаў

**Дазнацца, як развівалася адукацыя ў нашай краіне, запрашае Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь. Тут адкрылася выстаўка пад назвай «*VIA SCIENTIARIUM*», прымеркаваная да Дня ведаў.**

Экспазіцыю падрыхтавала галоўны бібліятэкар аддзела стараадрукаў і рэдкіх выданняў Святлана Паўлавіцкая. На стэндах — унікальныя матэрыялы, што захоўваюцца ў фондах установы: кнігі, навукова-педагагічныя працы, даведнікі, часопісы, фотаздымкі, старажытныя прадметы і інш.

Супрацоўнікі кніжніцы імкнуліся паказаць найбольш значныя моманты з гісторыі беларускай адукацыі. «Рэтраспектыва дае магчымасць убачыць, як развівалася адукацыя з даўніх часоў і да 1940-х гадоў, — распавёў Валерый Герасімаў, загадчык аддзела стараадрукаў і рэдкіх выданняў. — Шмат матэрыялаў, прадстаўленых на выстаўцы, не толькі адлюстроўваюць гістарычныя інавацыі айчыннай педагогікі, але і з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю, маюць гістарычную каштоўнасць».

Экспазіцыю адкрываюць факсімільныя выданні: кніжная спадчына Францыска Скарыны, славяна-руская азбука з выявай Кірылы і Мяфодзія, акафіст, прысвечаны Ефрасінні Полацкай. Прадстаўлены навуковыя працы, дзе асэнсавана значэнне дзейнасці першых беларускіх асветнікаў не толькі для нашых зямель, але і для сусветнай гісторыі ды культуры.

Побач — матэрыялы, што распавядаюць пра перыяд, калі Беларусь знаходзілася ў складзе Расійскай імперыі. Гэта нумары часопісаў па педагогіцы і выхаванні, даведачныя выданні пра адукацыйныя ўстановы — «Памятная кніжка Віленскай вучэбнай акругі», «Справаздача аб стане Слуцкай гімназіі», «Памятная кніжка Мінскай дырэкцыі народных вучылішчаў» ды інш. Экспануюцца цікавыя дакументы, у тым ліку «Зборнік распараджэнняў па Міністэрстве народнай асветы». Некаторыя нарматыўныя акты звязаныя з беларускай вучэбнай акругай: напрыклад, распараджэнне 1833 года аб стварэнні ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях семінарый для настаўнікаў і свецкіх прыходскіх вучылішчаў.




*Лемантар для дапрызыўнікаў і чырвонаармейцаў.*

Асобная частка экспазіцыі ілюструе станаўленне савецкай педагогікі. Тут сабраныя афіцыйныя пастановы па адукацыі — усесаюзныя і тыя, што датычылі толькі БССР. Ёсць матэрыялы II Усебеларускага з'езда таварыства «Прэч непісьменнасць», які праходзіў у 1928 годзе. Да ўвагі наведвальнікаў — праграмы выкладання па розных прадметах, а таксама мастацкая літаратура, якая выкарыстоўвалася ў навучальным працэсе: «Кандуіт» Л. Касіля, «Шлях з цемры» Я. Маўра і г. д.

Прадстаўлены дапаможнікі і метадычныя выданні, зборнікі сачыненняў і лекцый, энцыклапедыі і навукова-педагагічныя працы вядомых аўтараў — А. Макаранкі, П. Блонскага, І. Эвергетава. Некаторыя з іх не страчваюць актуальнасці і па сёння. На выстаўцы можна пабачыць манаграфіі, дзе вывучаецца замежны досвед у галіне педагогікі: «Педагагічныя ідэі Роберта Оўэна», «Педагагічныя пошукі ў Еўропе і Амерыцы»...

Экспазіцыю дапаўняюць фотаздымкі выхаванцаў і педагогаў айчынных гімназій, а таксама старажытныя школьныя рэчы: гусінае пяро, ручка, чарніліца.

Сёння ў фондах кніжніцы захоўваюцца сапраўдныя гістарычныя артэфакты — старадаўняе пісала, званочак, пярсцёнкі з рунічнымі і кірылічнымі надпісамі часоў Ефрасінні Полацкай. Ёсць тут і разнастайныя лемантары і падручнікі, па якіх навучаліся нашы продкі. Сярод іх — «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі, «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа, «Новы лемантар для беларускіх дзетак» Янкі Станкевіча. Адно з самых цікавых выданняў — тэматычны лемантар для чырвонаармейцаў і дапрызыўнікаў, што пабачыў свет у 1929 годзе.

Пазнаёміцца з экспазіцыяй можна да 16 кастрычніка.

**Ганна ПАЛЯКОВА**




*Фота Кастуся Дробава.*

*Валерый Герасімаў распавядае пра экспазіцыю.*

# ...сярод хвояў

Бібліятэка сярод соснаў… Дзіўна вам?

Гісторыя пасёлка Зялёны Бор, што ў Івацэвіцкім раёне, пачыналася ў 1959 годзе з аднаго дома ў лесе. А сёння тут працуюць торфабрыкетны і асфальтавы заводы. На ўздыме і культурнае жыццё. Зеленаборская сельская бібліятэка — буйны інфармацыйны цэнтр: з кніжным фондам каля 15 тысяч кніг абслугоўвае не толькі пасёлак Зялёны Бор (больш як 840 жыхароў), але і вёску Няхачава (235 насельнікаў). Усяго чытачоў 600, з іх 95 — дзеці. Для маленькіх першаадкрывальнікаў тут шмат цікавага: дыспут «Ты малады — падумай пра будучыню», гадзіна літаратурнага партрэта «Рыцар паветра і пяра» (да 115-годдзя Антуана дэ Сент-Экзюперы), бібліятэчная акцыя «Зазірніце ў дзіцячыя вочы» (да Міжнароднага дня дзяцей). Нагода для мерапрыемства і юбілеі кніг, напрыклад, 420 гадоў п'есе «Рамэа і Джульета» Уільяма Шэкспіра.

З карыснымі матэрыяламі для хлопчыкаў і дзяўчынак — стэлажы «Спазнай сябе — і спазнаеш свет!», «Прыгарніся да роднай мовы», «Ідучы сцежкамі дзядоў», «Хачу ўсё ведаць». Арцём Молаш пойдзе ў 6-ы клас, чытаць любіць. Кнігі бярэ не толькі сабе, але і блізкім. З парадамі бацькам — тэматычная падборка «Чытач гадуецца ў сям'і». Сярод лепшых чытачоў, як адзначае бібліятэкар кніжніцы Святлана Мядзведзь, — Таня Кавалёва, Каця Кулецкая, Віталь Грышчэня, Алег Палуян, сем'і Собаль, Краўчук. Абмену кнігамі садзейнічае наладжаны ў бібліятэцы буккросінг.



*Юны чытач Арцём Молаш бярэ кнігі для ўсёй сям'і.*

Для аматараў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — куток «Уменне заўсёды знойдзе прымяненне». Дзейнічае экалагічны гурток «Рамонак». Калісьці ў Зялёным Бары існавала ўнікальная экалагічная сцежка з адмысловымі прыроднымі цікавосткамі. Маляўнічы лес пасуе кніжніцы.

Ёсць у бібліятэцы краязнаўчы куток «След даўніны»: старыя збаны, гаршкі, чыгун, ступка, прас... Назбіралася ў Святланы Мядзведзь каштоўная калекцыя векавых ручнікоў з розных мясцін Беларусі. Гатова ўжо і назва выстаўкі: «Ручнік беларускі — бабуліна песня». У будучыні плануецца зрабіць музей. Балазе, энергіі ў бібліятэкара хапае. Дарэчы, Святлана — лаўрэат XII Рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці ветэранскіх калектываў «Не старэюць душой ветэраны», прысвечанаму 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Наталля СВЯТЛОВА,**
**фота аўтара**

# Народны зборнік і рэтра-імпрэза

У Расіі выйшаў зборнік «народных апавяданняў» пра школу 1960—1990-х гадоў. Гэта другое выданне з серыі «Народная кніга» па выніках маштабнага літаратурнага конкурсу «Мы родам са школы», што ахапіў больш за 10 тысяч жыхароў Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана і былых грамадзян СССР, якія пражываюць у ЗША, Германіі, Ізраілі. Укладальнік кнігі — Дзмітрый Быкаў.

Гэты кніжны праект прадстаўляе неафіцыйныя гістарычныя хронікі савецкай школы. Апавяданні пісалі людзі, не звязаныя з літаратурнай або журналісцкай дзейнасцю. У выніку атрымаўся зборнік пра мараль, падлеткавыя комплексы, першае каханне, дыскатэкі…

Прэзентацыя выдання з удзелам Дмітрыя Быкава, настаўнікаў, якія падтрымалі конкурс, і аўтараў зборніка адбудзецца ў рамках Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу 2 верасня.

***

Альтэрнатыву ночы музеяў прапануюць бібліятэкі Магілёва. Маштабную акцыю «Бібліяпрыцемкі» правядуць 15 верасня гарадская бібліятэка імя К. Маркса і дзіцячая бібліятэка-філіял імя А. С. Пушкіна, якія будуць адчыненыя для наведвальнікаў з 20.00 да 23.00.

У гарадской бібліятэцы імя К. Маркса адбудзецца імпрэза ў стылі 1920—1930-х гадоў з тэматычнай кінавіктарынай, эрудыт-шоу і салоннай гульнёй паводле класічных твораў. Дзіцячая бібліятэка-філіял імя А. С. Пушкіна пачне незвычайнае мерапрыемства з танцавальнага флэшмоба. Пройдзе шэраг майстар-класаў па дэкаратыўна-прыкладной творчасці, сучасных танцах і фатаграфіі. Госці кніжніцы стануць і ўдзельнікамі форум-тэатра, дзе атрымаюць магчымасць прапаноўваць нечаканы фінал для знакамітых класічных твораў. Героі розных кніг і коміксаў далучаць усіх жадаючых да займальнай квест-гульні «Паляванне на кнігу».

**Міра ІЎКОВІЧ**

Шчучын-2015

# Кніжніца з гісторыяй



Стары будынак калегіума.

**Шчучыншчына — край з багатай гісторыяй, слаўны знакамітымі імёнамі і помнікамі. Хочацца перагарнуць некаторыя старонкі мінуўшчыны і распавесці, як у горадзе развівалася бібліятэчная справа.**

Першыя дакументальныя сведчанні пра існаванне кніжніцы ў Шчучыне адносяцца да XVIII ст. — да часу заснавання школы піяраў. У 1718 г. уладальнік Шчучына Ежы Юзафовіч-Хлябіцкі запрасіў у свае ўладанні манахаў гэтага каталіцкага ордэна. Яшчэ ў 1621 г. піяры далі ўрачысты зарок: беднасць, чысціня духу, паслушэнства і бясплатнае навучанне моладзі. Школы, якія яны адкрывалі, былі для ўсіх дзяцей, незалежна ад сацыяльнага статусу і веравызнання. У піярскіх калегіумах, у адрозненне ад езуіцкіх, больш увагі надавалі грамадзянскаму і патрыятычнаму выхаванню. Утрымліваліся школы на сродкі, якія паступалі з зямельных уладанняў, і на ахвяраванні фундатараў.

15 манахаў ордэна размясціліся ў Шчучыне пры парафіяльным касцёле і 13 чэрвеня 1718 г. адкрылі школу, якая выхавала многіх славутых людзей: Ігната Дамейку, Мацея Догеля, Казіміра Нарбута… У касцельнай энцыклапедыі ёсць запісы пра сумы, што выдаткоўваліся на ўтрыманне шчучынскіх піяраў. Там значыцца, што падчас дзейнасці КНА (Камісіі Народнай Адукацыі Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага) школа атрымлівала 6000 злотых: 3000 на ўтрыманне настаўнікаў і 3000 на папаўненне фондаў бібліятэкі. Гэты факт дапамагае зразумець, наколькі важную ролю адводзілі ў калегіуме кніжніцы.

Першыя ўспаміны пра кляштарную бібліятэку адносяцца да 28 мая 1782 г. Цяжка сказаць, колькі кніг налічвалася ў ёй першапачаткова, вядома толькі, што там меліся рэдкія выданні. Фонд кніжніцы піяраў у пачатку XIX ст. налічваў 2751 адзінку. Кнігі — пераважна прыродазнаўчыя, медыцынскія, матэматычныя. Былі тут творы Гамера, Гарацыя, Плутарха, Ціта Лівія, Вальтэра, Мантэск'е. Акрамя таго, выкладчыкі і студэнты маглі карыстацца вялікай бібліятэкай Сцыпіёнаў, а потым — Друцкіх-Любецкіх.

Акрамя кніг кляштарная бібліятэка мела прылады па фізіцы і матэматыцы. У 1802 г. пры перапісе прылад адзначаны геаметрычны столік, дыёптры, вымяральны шнур, магнітная іголка. У наступныя гады колькасць прыстасаванняў павялічылася дзякуючы дапамозе Віленскага ўніверсітэта. У 1808 г. Шчучынская школа ўжо мела электрафорную машыну, гальванічны слупок, дзве Лейдэнаўскія ванны, два глобусы, цыркуль і інш.

Пры наведванні Шчучынскай школы 18 ліпеня 1817 г. інспектар адзначыў, што «няглядзячы на сціплае мясцовае фундатарства, бібліятэка, кабінет фізічны, лабараторыя хімічная па Гродзеншчыне тут паміж іншымі (кляштарнымі) у цэлай губерні ёсць першая».

Пасля паўстання 1830—1831 гг. школа, як і іншыя навучальныя ўстановы піяраў, была зачыненая. А ў 1833 г. з'явілася свецкае вучылішча. Яно мела сваю бібліятэку, дзе было многа навуковых і мастацкіх кніг рускіх аўтараў. Хутчэй за ўсё, частка знакамітай кніжніцы піяраў і стала маёмасцю вучылішча. Існуюць архіўныя дакументы, якія сведчаць: па распараджэнні ўлад частка кніг былога калегіума піяраў мусіла быць перададзеная Гродзенскай гімназіі і Навагрудскаму вучылішчу, частку ж пакінулі ў Шчучыне. Далейшы лёс знакамітага збору невядомы.

Пры калегіуме піяраў 26 ліпеня 1773 г. адкрылі адну з першых аптэк на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Згодна з інвентарным апісаннем, яна была адной з найбуйнейшых для свайго часу. Памяшканні ўражвалі раскошай: на сценах вісела 14 карцін, 6 з якіх напісаныя алеем, 6 — на шкле, 2 літаграфіі на паперы. Асартымент лекаў уключаў 821 назву. Шклянога посуду рознага прызначэння налічвалася 8913 адзінак.

Аптэка таксама мела сваю бібліятэку. У 1832 г. яна дазваляла карыстацца 71 кнігай — слоўнікамі і 66 манаграфіямі на розных мовах. З іх 32 манаграфіі былі на польскай мове, 26 — на лацінскай, 7 — на нямецкай, 1 — на рускай. 58 кніг — медыцынскія і фармацэўтычныя, у тым ліку і фармакапеі Расіі і Польшчы, навуковыя працы С. Юндзіла і К. Клюка. Гэтымі выданнямі маглі карыстацца і наведвальнікі.

Поўнай статыстыкі прыватных бібліятэк у Беларусі не існуе. Таму дадзеныя пра іх вельмі фрагментарныя. Культурныя каштоўнасці захоўваліся практычна ў кожнага больш-менш значнага абшарніка (памешчыка). У межах сучаснай Беларусі амаль 400 маёнткаў мелі музейныя калекцыі, сямейныя архівы, карцінныя галерэі і бібліятэкі. З іх 54 знаходзіліся ў мястэчках, у тым ліку і ў Шчучыне.

Адзначым, што ў эпоху Асветніцтва прыватныя магнацкія бібліятэкі выконвалі функцыю публічных. Уласнікі кнігазбораў лічылі сваім абавязкам дазваляць карыстацца імі ўсім ахвотным, дапамагаць у пошуку крыніц, збіранні матэрыялаў для даследчыцкіх прац. У Шчучыне, у асобным мураваным будынку сярод парку, захоўваліся багатая бібліятэка і архіў князёў Друцкіх-Любецкіх, прывезены з радавых маёнткаў з Піншчыны. Частку дакументаў на пачатку XX ст. перадалі ў Кракаў, у музей Чартарыйскіх. А тое, што разам з кнігазборам захоўвалася на месцы, было знішчана ў Першую сусветную вайну.

**Тамара МЕНСКАЯ,**
**намеснік дырэктара**
**Цэнтральнай бібліятэчнай**
**сістэмы Шчучынскага раёна**

# Па вуліцах, якіх ужо няма



Фота Аляксея Ганчука.

У музеі Падлескай бібліятэкі: метадыст па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Ляхавіцкага раённага метадычнага цэнтра Наталля Скрыпнік і бібліятэкар Ларыса Глеб.

На першы погляд — звычайная палеская вёска. Падлессе зелянее садамі, жыве будзёнымі клопатамі, старэе разам з бабулямі на лаўках… Але пераступаеш парог вясковай кніжніцы — трапляеш у іншае вымярэнне. Вёска тая ж, але глядзіш на яе ўжо інача — вачыма бібліятэкара Ларысы Глеб.

«Што гэта яна зноў прыдумала?» — вяскоўцы ўжо ведаюць: іх бібліятэкар — «парушальнік» спакою і ініцыятар шматлікіх акцый ды імпрэз. Менавіта яна не дае вясковай ідыліі ператварыцца ў правінцыяльнае балота. Разам з дзятвой з бібліяграфічнага гуртка яна ў няспынным руху: вясну сустракаюць чытаннем вершаў проста на вясковай вуліцы, на святы іх чакаюць у мясцовай царкве. Цяпер, падчас летніх канікул, юныя артысты рэпеціруюць… мюзікл на беларускай мове. Касцюмы шые сама Ларыса Мікалаеўна, яна ж — аўтар песень. Тое, што ў Падлессі выдатна спяваюць, ведаў яшчэ знакаміты Генадзь Цітовіч, калі стварыў мясцовы хор. «Вось каб нам аўтобус, а на ім вялікімі літарамі — "Гарэзлікі"! Усюды ездзілі б з дзецьмі і выступалі…» — марыць бібліятэкар.

Пакуль няма сучаснага транспарту, запрагаюць коніка і адпраўляюцца на экскурсію па роднай вёсцы — сапраўднае падарожжа ў часе, бо Ларыса Мікалаеўна ведае пра вёску нават больш, чым мясцовыя старажылы. І трапляюць яны на вуліцы ды месцы, якіх ужо няма ў сучасным Падлессі. Слухаюць цікавыя гісторыі пра дзяка Костку, які вучыў самога Лабановіча — героя рамана «На ростанях» Якуба Коласа. «Пачулі дзеці, што калісьці жыхароў Падлесся называлі курцікамі — ад мясцовай верхняй вопраткі. Цяпер і сябе так клічуць — спадабалася слова», — усміхаецца Ларыса Глеб.

У бібліятэцы амаль 400 чытачоў, з іх некалькіх чалавек Ларыса Мікалаеўна наведвае дома. Прыходзіць не толькі з часопісамі ды кнігамі — з добрым словам і дзейснай дапамогай. «На вёсцы ты і бібліятэкар, і сацыяльны работнік, і псіхолаг. Трэба да людзей ставіцца з увагай», — гаворыць Ларыса Глеб.

Яна не размяжоўвае час на вольны і працоўны. У кніжніцы яе намаганнямі створаны краязнаўчы міні-музей — яшчэ да канца не ўладкаваны, але ўжо са сваімі цікавосткамі. Ручнікі, посуд, музычныя інструменты, адзенне, некалькі старых прасаў — зразумела, калекцыя папоўніцца, бо «на захаванне» ў надзейныя рукі Ларысы Глеб вяскоўцы нясуць самабытныя, каштоўныя рэчы.

А яшчэ Ларыса Мікалаеўна знаходзіць хвілінку для ўласнай творчасці — друкуе матэрыялы па краязнаўстве ў раённай газеце і піша вершы. У іх яна працягвае дыялог з людзьмі, шчыры і адкрыты: «Прыйдзіце кнізе пакланіцца. Не трэба так: гады ў рады…»

**Алёна САЦУТА**

Да 70-годдзя Вялікай Перамогі

# Марафон. Паэтычны

Да свята Вялікай Перамогі, 105-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Твардоўскага і 100-годдзя Канстанціна Сіманава было прымеркавана мерапрыемства, якое ладзілі супрацоўнікі раённай бібліятэкі для выхаванцаў аздараўленчага лагера Бярэзінскага раёна «Папараць-кветка».

Летні адпачынак цудоўна спрые знаёмству з паэзіяй. Пацвярджэнне гэтаму — паэтычны марафон «Чытаем разам любімыя радкі», які ярка і запамінальна прайшоў у дзіцячым летніку. Для калектыўных чытанняў былі абраныя самыя пранікнёныя вершы пра вайну.

Жыццёвай ілюстрацыяй галоўнай ідэі верша К. Сіманава «Чакай мяне» (сапраўднае каханне робіць цуды!) стаў агучаны рэальны выпадак: жанчына цэлы год не атрымлівала лістоў ад мужа, кожны раз з трывогай чакала паштальёна. Аднойчы ўбачыла ў яго руках канверт і пазнала родны почырк, аднак пісьмо было адрасавана не ёй, а брату. Жанчына папрасіла паштальёна даць ёй прачытаць пісьмо, з якога даведалася, што муж пасля цяжкага ранення страціў ногі. Жанчына тым жа днём напісала мужу ў шпіталь: «Буду чакаць! Падлечвайся і вяртайся дадому! Галава цэлая, а ногі будуць мае!» Гэты ліст цяжкапараненыя байцы перадавалі з палаты ў палату як глыток надзеі на тое, што іх, інвалідаў, таксама чакаюць.

Паэма «Васіль Цёркін» пісалася паэтам-франтавікам Аляксандрам Твардоўскім з 1942 года цягам усёй вайны. Байцы і камандзіры чыталі яе ў акопах, траншэях і зямлянках, з нецярпеннем чакалі армейскай газеты з новымі часткамі паэмы, завучвалі на памяць. Бярэзінцы Аляксандр Кузін, Іван Пісанік, Дзіма Базылёў, случанін Кірыл Зорачкін, барысаўчанін Арцём Слава пранікнёна чыталі часткі папулярнай кнігі пра байца «Пра ўзнагароды» і «Гармонік».

Паэтычны марафон «Чытаем разам любімыя радкі» будзе прадоўжаны ў школах горада.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ**

# Містыка і футурызм

Экспазіцыя графікі Томаша Кукаўскага і Бернадэты Бенедысюк з горада Беластока (Польшча) праходзіць у галерэі «Акадэмія» Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У аснове экспазіцыі — выбраныя каляровыя і чорна-белыя графічныя карціны, створаныя за апошнія пяць гадоў творчых пошукаў, эксперыментаў, знаходак. Мастакі пераспрабавалі, напэўна, усе групы графічных тэхнік: смела спалучалі іх паміж сабой альбо выкарыстоўвалі паасобку. Ключавой стала калаграфія — аўтарская тэхналогія друку, якая таксама з'яўляецца сумессю, эклектыкай.


*«Розныя прасторы II».*

Стыль, характэрны для работ абодвух творцаў, можна вызначыць як містычны футурызм. Назвы кажуць самі за сябе: «След 4», «Розныя прасторы II», «Слабеючы, тонучы», "Два светы — Астэрыён унізе"... Карціны выкананы вельмі эмацыянальна, у іх шмат выразных, прамых ці выгнутых ліній, геаметрычных форм, але разам з тым яны ствараюць адчуванне спакою і гармоніі. Мабыць, яшчэ і таму, што на палотнах паўтараецца сімвал палёту і свабоды — крылы. Удалае спалучэнне колераў, разнастайнасць вобразаў, тонка вывераная перспектыва, калі блізкія і далёкія планы ствараюць адчуванне трохмернасці, — усё гэта частка почырку Томаша Кукаўскага.

У Бернадэты Бенедысюк усё некалькі інакш. Творчая манера мастачкі адрозніваецца мінімалізмам, меланхоліяй, увагай да гульні святла і ценяў, халоднасцю адценняў.

Томаш Кукаўскі нарадзіўся ў 1964 годзе. Скончыў факультэт архітэктуры Беластоцкай палітэхнікі (дзе, між іншым, цяпер працуе прафесарам) і факультэт графікі Акадэміі выяўленчага мастацтва ў Варшаве. Архітэктура, дызайн інтэр'ера і мэблі, жывапіс, графічны дызайн, мастацкая графіка, малюнак — усё гэта ў яго творчай біяграфіі займае ажно 25 гадоў. Спадар Кукаўскі кіруе майстэрняй станковай графікі, вучыць маладое пакаленне. Бэрнадэта Бенедысюк — адна з яго прадстаўніц, выпускніца Беластоцкай палітэхнікі. Дыпломная работа мастачкі, прысвечаная графічнаму праектаванню, была выканана менавіта пад кіраўніцтвам прафесара Томаша Кукаўскага. Б. Бенедысюк скончыла магістратуру ўніверсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне, дзе атрымала прэстыжную ўзнагароду рэктара за дыпломны праект па станковай графіцы.


*«Розныя прасторы III».*

Адметна, што частка выстаўкі ўжо была прадстаўлена ў музеі Марка Шагала ў Віцебску, але ў Мінск мастакі прывезлі яе поўную версію.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Калі палотны… расцвітаюць

Персанальная выстаўка маладога віцебскага мастака Аляксандра Грышанава адкрытая ў Віцебскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага.

Аляксандр Грышанаў нарадзіўся ў 1987 годзе ў Віцебску. Творы яго экспанаваліся не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы. Усяго на рахунку жывапісца больш як два дзясяткі персанальных выставак. Новую экспазіцыю складаюць выявы кветак. У гэтым вытанчаным букеце — «Макі», «Цюльпаны», «Півоні», «Сланечнікі», «Бэз у керамічнай вазе», «Бэз у шкляным графіне»…

Дырэктар Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы г. Віцебска і Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Горкага Галіна Данілава зазначыла: у кніжніцы праходзяць самыя розныя выстаўкі. Так, мастацтва фларыстыкі тут прадставіла Людміла Швед, выцінанкі — Вольга Араслана, пляценне з папяровай лазы — Наталля Махавікова. Шырока экспанавалася і аматарская вышыўка. А што да жывапісу, то ў бібліятэцы выстаўляліся дыпломныя работы навучэнцаў віцебскай школы мастацтваў № 3. Адбыліся і персанальныя выстаўкі гродзенскага мастака, ураджэнца Віцебска Андрэя Стурэйкі, віцябчан Уладзіміра Вальнова ды Аляксея Пшонкі…


*Аляксандр Грышанаў «Макі».*


*Аляксандр Грышанаў «Бэз у керамічнай вазе».*

Супрацоўнікам і наведвальнікам віцебскіх кніжніц імя Аляксандра Грышанава ўжо вядомае. Раней яго персанальныя выстаўкі прайшлі ў гарадскіх бібліятэках імя Ефрасінні Полацкай і Еўдакіі Лось.

На думку Галіны Данілавай, работы Аляксандра Грышанава выпраменьваюць радасць, святло і прагу жыцця. Уражваюць тонка прапрацаваныя колеравыя рашэнні. Ды і самі кветкі ўвасабляюць гармонію. Невыпадкова ж у віцебскую цэнтральную бібліятэку прыходзяць не толькі па літаратуру, але і для таго, каб далучыцца да іншых відаў мастацтва.

**Яна ЯВІЧ**

# Напісаныя ніткамі

Выстаўку вышываных карцін «Элегія», ініцыяваную сумесна з Культурна-гістарычным комплексам «Залатое кальцо горада Віцебска "Дзвіна"», прадставіў у Віцебскім мастацкім музеі клуб аматараў вышыўкі «Чарадзейная ніць» пад кіраўніцтвам Галіны Хіневіч, які аб'ядноўвае людзей рознага ўзросту і прафесій. Суполка даволі маладая: яна існуе ўсяго каля трох гадоў. Гэты клуб пастаянна ўдзельнічае і ў «Задзвінскім кірмашы», дзе дэманструюцца народныя рамёствы, і ў Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».


*Людміла Швед. З серыі «Каралеўскае паляванне».*

З прывітальным словам да ўдзельнікаў і наведвальнікаў выстаўкі звярнуліся намеснік дырэктара Культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кальцо горада Віцебска "Дзвіна"» Раман Баярынцаў і дырэктар Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы г. Віцебска і Віцебскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Горкага Галіна Данілава.

У экспазіцыі каля трох дзясяткаў вышываных карцін, паядналых элегічнымі матывамі. Праз гэтыя творы сузіральнік быццам паглыбляецца ў магічную атмасферу лета. Ёсць тут і «Цюльпаны» Галіны Хіневіч, і «Жыта» Алены Ядзевіч (паводле палатна рускага мастакакласіка Івана Шышкіна), і «Рамонкі з чарэшняй» Любові Селібакінай, і «Блакітны пейзаж» Лідзіі Нестраляевай ды іншыя творы. Дарэчы, той, хто думае, што мастацкая вышыўка — занятак чыста жаночы, памыляецца! Сведчаннем — прадстаўленая на выстаўцы работа Анатоля Шведа «Бурнае мора» (паводле карціны рускага марыніста Івана Айвазоўскага).

Паводле кіраўніка клуба Галіны Хіневіч, выстаўкі работ удзельнікаў «Чарадзейнай ніці», якія праходзяць у розных культурных установах Віцебска, ужо займелі сваіх пастаянных наведвальнікаў. Безумоўна, творы зараджаны станоўчай энергетыкай, бо ў працэсе вышыўкі кожны аўтар складвае ва ўласныя работы кропельку душэўнай цеплыні.

**Яна ЯВІЧ**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: А. І. Саламевіч
Нумар падпісаны ў друк 27.08.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 2034.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў
Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3, 220073, Мінск.
Заказ — 1486 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12